


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

20 ЛІПЕНЯ 2001г. № 29/4113 КОШТ 129 РУБ.




*Веру, братцы: людзьмі станем,*
*Хутка скончым мы свой сон;*
*На свет божы шырэй глянем,*
*Век напіша нам закон...*

**ЦЁТКА**

МЕРКАВАННЕ

"Давай будзем сябраваць", — прапанаваў магутны арол яшчэ больш магутнаму Дракону. "Канечне, — адказаў Дракон, — для мяне дык такое сяброўства будзе карысным. Я ўжо крыху пастарэў, стаў цяжкаватым і не магу высока ўздымацца. Мне ўсё цяжэй трымаць у полі зроку свае ўладанні. Ты будзеш наверсе маімі вачыма..."

Арол, усцешаны такім адказам грознага Дракона, нават згадзіўся пагасцяваць у ягоным доме... Але калі ноччу госць заснуў, гаспадар падкраўся да яго і адным махам праглынуў, кажучы пры гэтым: "Якое ўсё ж такі нахабства — прапаноўваць сяброўства самому Дракону!..

**Са старажытнай кітайскай прытчы**

***Як сцвярджаюць знаўцы літаратуры, знакаміты драматург Яўген Шварц у сваёй вядомай казцы-п"есе "Дракон" (1944) быццам бы ў алегарычнай форме адлюстраваў тагачасную савецкую рэчаіснасць. А пад галоўным героем – магутным уладаром Драконам – вывеў самога "бацьку народаў" І. Сталіна. Так гэта ці не так, сказаць цяжка. Але вядома, што гэты свой твор Шварц пісаў якраз у той год, калі ў СССР згодна з воляй правадыра быў прыняты новы дзяржаўны гімн Аляксандра Аляксандрава...***

***Праз 47 гадоў пасля смерці таварыша Сталіна Расіі ізноў быў вернуты ў якасці дзяржаўнага былы гімн СССР, адменены Указам Барыса Ельцына ў 1991 годзе. Зрабіў гэта новы кіраўнік Расіі Уладзімір Пуцін, які, як вядома, сам нарадзіўся ў год Дракона. У Расіі некаторыя ўбачылі нават у гэтым містычную заканамернасць. Зрэшты, такая "містыка" не была надта ўжо нечаканай...***

***Нас, беларусаў, тэма сімволікі не можа не хваляваць. Бо зусім недалёкі той памятны 1995 год, калі і ў Беларусі адбываліся гарачыя спрэчкі на гэты конт, рысу якім падвёў вядомы рэферэндум. Зразумела, што сімволіка не існуе ў замкнёнай прасторы. Яна істотна звязаная не толькі з палітычнымі, але з многімі гістарычнымі, філасофскімі, светапоглязднымі аспектамі нашага жыцця. Да таго ж, як нам падаецца, ні ў Расіі, ні ў Беларусі па розных прычынах тэма сімволікі канчаткова яшчэ не закрытая. Хто ведае, магчыма прыклад расійскага "сімвалічнага кампраміса Пуціна" (як яго вобразна назвалі ў многіх расійскіх і замежных СМІ) стане і для нас павучальным?..***

# Людзі і сімвалы

Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

I

Расія, праіснаваўшы ў постсавецкім вымярэнні дзевяць гадоў, аніяк не магла знайсці згоду адносна дзяржаўнай сімволікі. Яна сталася для гэтай краіны своеасаблівым *гордзіевым вузлом*. І вось новы прэзідэнт Расіі вузел той рашуча рассёк, зняўшы ўрэшце пытанне — з якімі сімваламі ўступіць гэтая краіна ў новае тысячагоддзе. Сярод іншых расійскіх актуаліяў — такіх як эканоміка, Чачня, злачыннасць — пытанне сімволікі сталася прыярытэтным... Не сказаць, каб у расійскага лідэра не існавала ў гэтым пытанні апанентаў. Як і ў нас у 1995, і там былі і нежартоўныя спрэчкі, і актыўная палеміка ў СМІ. Але прэзідэнт Расіі, як пішуць расійскія газеты, "сагнуўшы апанентаў цераз калена...", дабіўся свайго...

У чым жа заключаецца той "кампраміс Пуціна..."? Скажам так, ён даволі своеасаблівы... Цяпер ударнае "сімвалічнае трыа" Расіі ўяўляе з сябе сімбіёз царска-імператарскіх двухгаловага арла і "трыкалора" са згаданым "Гімнам бальшавікоў"(які амаль 48 гадоў быў дзяржаўным гімнам СССР). На першы погляд, сапраўды ўсё цудоўна — і ваўкі (камуністы?) сытыя і авечкі (дэмакраты?) цэлыя. Кожнай сястрычцы — па завушнічцы!. Але апаненты Пуціна даводзяць, што, маўляў, "завушніцы" тыя — не зусім раўнаважкія, бо гімн па сваім эмацыйна-пачуццёвым уздзеянні яўна пераважвае больш "камерныя" сцяг і герб. І таму, новая сімволіка наўрад ці прывядзе да грамадскай згоды ў Расіі... Але, паўторым, пратэсты апанентаў былі пакінутыя расійскім прэзідэнтам без увагі і ў новае тысячагоддзе Расія ўвайшла з паўнавартаснымі дзяржаўнымі сімваламі.

Цяпер кожны дзень гэтая вялікая краіна, узняўшы над Крамлём "манархічна-буржуйскія" сцяг і герб прачынаецца і засынае пад гукі былога савецкага гімна. Словы ў яго, зразумела, іншыя, хоць і напісаў іх усё той жа "штатны" аўтар — Сяргей Міхалкоў. Але якія ні ёсць тыя новыя словы, падчас выканання гімна ў сэрцах мільёнаў людзей, асабліва сталага ўзросту, будуць гучаць тыя, ранейшыя: "Союз нерушимый республик свободных Сплотила навеки Великая Русь!..". І новы-стары гімн ізноў будзе спакваля весці народы Расіі "к торжеству коммунизма", хацелі б таго сённяшнія крамлёўскія "небажыхары" ці не.

Праўда, кажучы шчыра, пераважная большасць жыхароў Расіі паставілася да зменаў у сімволіцы спакойна, нават індыферэнтна, вылучыўшы падчас апытанняў грамадскай думкі на першае месца іншыя праблемы. Якраз — эканамічныя, рост злачыннасці, чачэнскую вайну...

II

Зрэшты, калі і ў нас пагаварыць з простымі людьмі, то з гледзішча пераважнай большасці з іх пытанне сімволікі яўна несур"ёзнае. Маўляў, ці ёсць розніца, які будзе сцяг і герб, што будуць раніцай і вечарам іграць па радыё?..

Памятаю, як напрыканцы 1991 года падчас першай змены сімволікі на Беларусі мой, тады яшчэ жывы, бацька нейк увечары, седзячы на ганку свайго вясковага дома, раптам з горычу сказаў: "І што яны там валтузяцца з гэтымі сцягамі — ад гэтага хлеба і малака не паболее!.." Я стаў даводзіць, што гэта не проста змена сімволікі, а крайне неабходны рытуал, які адлюстроўвае даўно наспелыя перамены... Бацька цярпліва слухаў, ківаў галавою, але ва ўсёй ягонай паставе адчуваўся моцны скепсіс. І ўрэшце ён падвёў рысу: "Не думаю, што ад гэтага нешта зменіцца... Пабачыш, памяняюць шыльды, а ўсё будзе па-ранейшаму. А то нават яшчэ і горш!. **Яны** (пры гэтым бацька выразна падняў палец уверх) нічога, нікому, ніколі не саступяць..." Ён зрабіў паўзу і раптам глуха дадаў: "І ты там глядзі, ніколі з **імі** не ваюй — мокрага месца не пакінуць!.." Што тут можна было адказаць. Тыповы, як цяпер кажуць, генетычны, беларускі нацыянальны светапогляд — падпарадкоўвайся, каб ацалець, выжыць! Але ў той спрэчцы я працягваў сцвярджаць, што цяпер абавязкова ўсё зменіцца, бо прыйдуць іншыя...

Трэція-чацвёртыя эшалоны нашай наменклатуры, што прыйшлі да ўлады ў сярэдзіне 90-х, былі, як кажуць, плоць ад плоці былой палітычнай сістэмы, прамымі нашчадкамі ўладна-бюракратычнай парадыгмы, заснаванай яшчэ У. Леніным у 1917 годзе. Яны чакалі свайго часу і дачакаліся, калі былыя палітычныя "зубры", у многім дэмаралізаваныя гібеллю "савецкай Пампеі", на нейкі момант выпусцілі тую ўладу з рук. Яна сапраўды нейкі час пасля набыцця Беларуссю незалежнасці літаральна валялася пад нагамі...

Відавочна, што мы заўсёды маем такую ўладу, якую заслужылі. І ўсё ж жыццёвая філасофія майго бацькі ў многім была слушнай. Ён нейкім спрадвечным сваім інстынктам адчуваў, што ўлада і астатні люд — гэта малаперасякальныя сусветы, што ў іх у пераважнасці розныя інтарэсы. Разумеў ён, што і маніпуляцыі са зменаю дзяржсімвалаў — гэта адзін з элементаў спрадвечнай рытуальнай гульні "моцных гэтага свету" з грамадствам. Пераможца ў якой заўсёды прадвызначаны...

III

Канечне, змены беларускай сімволікі ў 1995 годзе (як і ў 1991-м) ненашмат паўплывалі на павышэнне ўраджайнасці палёў і дойнасць "буронак". Але тым не меней і ў першым, і ў другім выпадку (як і ў Расіі 1991-га і 1999-га) нешта нябачна мянялася ў агульнай атмасферы жыцця нашай дзяржавы. Усе гэтыя, быццам бы фармальныя, змены нейкім дзіўным чынам высмоктвалі шмат сіл і энергіі з нашага народа — і ён пасля гэтага на пэўны час відавочна суцішаўся ў разгубленасці... Дарэчы, ні пры першай змене, якая лічыцца чыноўніцкай, ні пры другой, падмацаванай рэферэндумам, мы не ўбачылі масавых пратэстаў у абарону ранейшых сімвалаў. І ўсё ж розніца паміж гэтымі дзвюма падзеямі была.

Ліквідацыю савецкай сімволікі ў 1991-м народ успрыняў як вырак. Саюз быў ужо на сваім "смяротным ложы", і ўсе разумелі, што спыняць пачаты пры Гарбачове "працэс" ужо ніхто не ў стане. Хоць, зразумела, было нямала людзей, для якіх тыя змены былі вельмі балючымі. І тым не менш ніхто не выйшаў на вуліцы з пратэстам. У 1995 годзе, праз некалькі гадоў незалежнасці, пратэстуючыя, будзем аб"ектыўнымі, усё ж такі былі. Іх вонкава было няшмат, але гэтая нешматлікасць была ўмоўнай. Насамрэч апанентаў новай-старой савецкай сімволікі было значна больш, бо многія паспелі ўспрыняць бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню" — як сімвал і гарантыю незалежнасці. А іх змену яны расцэньвалі як здраду гэтай самай незалежнасці, перавагі якой яны паспелі ўжо ўцяміць. Але і ў 1991-м і ў 1995-м большасць прыхільнікаў як савецкай, так і "незалежніцкай" сімволікі, генетычна, навучаная "правілам гульні" з уладаю, пратэставала, як кажуць, моўчкі...

Зразумела, што арганізатары вяртання ў 1995 годзе савецкай сімволікі (у крыху падноўленым выглядзе) і тыя сілы, якія за імі стаялі, нічаму і нікому не здрадзілі: яны проста вярнулі сваё, крэўнае.

Незалежнасць не ўспрымалася новай уладай ні духоўным імператывам, ні тым больш — панацэяю ад эканамічных нягодаў. Ратунак ад іх бачыўся выключна ў звыклым рэчышчы — "з братняю Руссю". Гэта хоць і "звужала гарызонт", але затое не бянтэжыла рызыкоўнай навізною, якая дэзарыентавала і нават палохала. Інстынкт самазахавання цвяроза падказваў беларускім палітычным элітам, што вядомы пастулат "Захад нам дапаможа!.." не стане для іх выратавальным кругам. Там, на Захадзе, усё было чужым — і ідэалагічна, і духоўна. Шукаць з ім "кансенсус" было доўга і складана...

Так што аніякай здрады з боку беларускіх палітычных груп, "падабраўшых" уладу ў Беларусі ў 1994 годзе, не было. Наадварот, трэба аддаць належнае іх адданасці і вернасці былым ідэалам. Да таго ж чуткі аб смерці "льва" — старой сістэмы — сталіся яўна перабольшанымі. Вяртанне савецкай сімволікі як бы гучна даводзіла ўсім, хто чакаў фатальнага выніку: "Не дачакаецеся!.."

IV

Зразумела, галоўнае пры ўстанаўленні ўсялякай сімволікі не столькі сцвярджэнне пэўнай палітычнай сістэмы (яна заўсёды не болей чым абалонка пэўных ідэй), колькі сцвярджэнне сістэмы светапоглядных, духоўных каштоўнасцяў. А яна ў савецкім грамадстве, мусім прызнаць, была-такі сфарміраваная, маючы, як гэта не парадаксальна, глыбокія карані ў старой расійскай ідэалогіі. Зразумела, гэтая сістэма мэтанакіравана ўкаранялася і ў Беларусі, у нацыянальным асяродку якой яшчэ не паспеў выкрышталізавацца свой дзяржаўны менталітэт, дакладней, ягоны галоўны носьбіт — нацыянальная бюракратыя.

Дзесь з пачатку 50-х гадоў XX стагоддзя на беларускім нацыянальна-дзяржаўным "дрэве" пачалі даваць плёнтыя "прышчэпы", што актыўна прывіваліся на ім яшчэ з часоў Кацярыны II. Зразумела, што якраз яны былі заўсёдным апірышчам знешняга ўплыву на нашую краіну. Дык вось гэтыя "чужынцы" сталіся нашмат больш жывучымі і пладавітымі, чым нашыя мясцовыя "парасткі", лепшыя з якіх да таго ж рэгулярна "падразаліся".

Чаму ж нашае нацыянальнае "дрэва" не адрынула гэтых самых "чужынцаў", асабліва тады, калі яшчэ не быў парушаны ягоны нармальны жыццёвы імунітэт самазахавання? Злы жарт адыграла моўная і культурная блізкасць. Нашае "дрэва" па вялікім рахунку не разгледзела небяспеку. Нават пасля кастрычніка 1917-га, калі іншыя сямейнікі "единой и неделимой" пачалі хуценька "дзяліцца" і разбягацца ва ўсе бакі, яно не адрынула відавочна небяспечных для самога свайго існавання мяснікянаў і кнорыных. А ўсе ранейшыя спробы "отторжения" — у 1794-м, і ў 1831-м, і ў 1861-м гадах — якія ўсё ж такі мелі быць, не здолелі закрануць глыбінныя пласты народа.

Ну а потым пад перманентным знешнім уплывам, пад прэсінгам крайне неспрыяльных для нацыянальнага адраджэння абставінаў пачалі актыўна мімікрыраваць і фатальна змяняцца і свае "парасткі". І як такое часта бывае — "свае" паступова станавіліся нашмат болей заўзятымі "ревнителями" чужога, чым самі "чужыя". Размова, паўторым, тут ідзе найперш пра нацыянальную эліту, якая ў Беларусі не сталася тым стрыжнем і захавальніцай нацыянальнага, як ў тых жа Летуве ці Украіне.

Вось чаму інерцыя нацыянальнай духоўнай "масы", у адрозненні ад тых жа украінцаў, аказалася ў нашыя часы невялікай. Нацыянальным сімвалам амаль не было за што "зачапіцца", таму яны і былі лёгка дэманціраваныя. (Нельга забываць і пра відавочную "палітычную мэтазгоднасць" іх ліквідацыі — новыя сімвалы маглі быць "нацыяналістычным" жупелам, раздражняючым усходнюю суседку, выбар стратэгічнай арыентацыі на якую ўжо быў зроблены.) А не таму, што яны былі "заплямленыя", як некаторыя сцвярджаюць, падчас другой сусветнай вайны і нямецкай акупацыі Беларусі. Сённяшні прыклад Расіі паказвае, што пры гэтай самай "палітычнай мэтазгоднасці" на такога кшталту "плямы" глядзяць, "чувств никаких не изведав". Як сёння глядзяць там на "трыкалор", які стаў цяпер паўнавартасным дзяржаўным сцягам. Пра ягоную "заплямленасць" (падчас той жа вайны "трыкалор" быў афіцыйным сімвалам уласаўцаў) амаль ніхто сёння не гаворыць...

Нельга не сказаць пра лёс беларускага дзяржаўнага гімна (дарэчы, як і гімн Аляксандрава, цудоўнага ў музычным плане твора). Яго не закранулі ніякія палітычныя пертурбацыі. Бо што ж хаваць, ён на зайздрасць аб'ектыўна апяваў і апявае нашую рэчаіснасць: "Мы, беларусы, з братняю Руссю, Разам шукалі к шчасцю дарог!.." І хоць словы ягоныя таксама фармальна адмянілі, але яны, як і ў выпадку з гімнам СССР, чуюцца ў кожным музычным такце... Лёс гімна якраз і прадэманстраваў сапраўдную пераемнасць новай улады і яе ... відавочны палітычны кансерватызм...

І гэты кансерватызм — зусім не нонсенс. Бо кансерватызм кансерватызму не роўня. Час відавочна паказаў, што нашая Беларусь — гэта не нейкая там мяцежная Вандэя (контррэвалюцыйная правінцыя, што ўрэшце была задушаная рэвалюцыйнымі войскамі падчас Французскай рэвалюцыі) на постсавецкай прасторы . Мы — гэта зусім іншая рэч!.. Мяркуючы па тым, што адбылося ў Расіі з сімволікай напрыканцы другога тысячагоддзя, трываласць Беларусі ў "савецкай" веры была недарэмная і небессэнсоўная. Беларусь аказалася тым адзіным на гэтай прасторы бастыёнам, які "не поступился принципами" савецкага мінулага, і вакол якога сталі гуртавацца і яднацца ўсе ягоныя прыхільнікі. Нашая адданасць гэтым "прынцыпам" і сталася ўрэшце прыкладам для Расіі. Расійская "гара" хоць і з вялікім рыпам, але ўсё ж паціху пасунулася ўслед за нашым "магаметам".

Зразумела, фармальна вы нідзе не знойдзеце напаміну пра нейкі там камуністычны рэванш — ні ў нас, ні ў Расіі: усё гэта адмаўляецца і нават абсмейваецца. Але тым не менш Расія не вярнулася да яшчэ аднаго "гістарычнага" гімна "Боже, царя храни!.." , які быў бы нашмат больш арганічны ў спалучэнні з "трыкалорам" і "арлом". Як бачым, не "малодшая сястра" пасля "старэйшай", а "старэйшая" пасля "малодшай" — дакладна паўтарае ўсе яе крокі. Ад стварэння вертыкалі — да сімволікі...

Так што нашая родная Беларусь — не толькі выток усемагчымых новых палітычных сістэм і мадэляў, палігон для іх "абкаткі". Яна змагла цудоўна выканаць ролю і самай кансерватыўнай захавальніцы былых савецкіх "прынцыпаў". Хутчэй за ўсё навідавоку тая самая генетычна напрацаваная нацыянальная рыса прыцярпеласці і падпарадкавання **ўсялякім** абставінам.

V

Быццам бы зноў чую голас свайго бацькі: "Ну і што з таго, што Расія цяпер будзе прачынацца пад гімн Сталіна. Што, яны працаваць ад гэтага лепей ці горай будуць?"

Яно мажліва было б і зусім нічога. Асабліва для нас, беларусаў. Але сённяшняя сітуацыя ў Расіі ўсебакова ўплывае на наш лёс, улічваючы актыўную інтэграцыйную палітыку з гэтай краінай. Нягледзячы на згаданае вышэй нашае "ідэйнае" лідэрства, у астатнім мы застаёмся ўсё ж вельмі "сейсмазалежнымі" ад усіх рэальных палітычных і эканамічных тэктанічных зрухаў у "трэцім Рыме". Нездарма ж сцвярджаюць, што невялікі "чых" там аддаецца ў нас землятрусам. Хочацца каму ці не, а ўсе калізіі расійскай гісторыі нас яшчэ як датычаць...

Зрэшты, наконт апошніх расійскіх "сімвалічных" калізіяў нашыя кіруючыя ( у асноўным — левага ўхілу) палітычныя эліты не выяўляюць пакуль што цвёрдага аднадумства. Не зважаючы нават на тую ж самую відавочную "палітычную мэтазгоднасць"... Але, зразумела, час усё паставіць на месца. Гэта як у вядомым анекдоце: "Сказаў старшына, што бурундук— гэта птушка, значыць так яно і ёсць!"

*(Працяг на стар. 14)*

## “Слова пра літаратуру і літаратараў”

**Пад такой назвай задуманы двухтомнік літаратурна-крытычных артыкулаў па беларускай літаратуры. Нядаўна ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” пабачыла свет першая кніга — “XIX — пачатак XX стагоддзя” (укладальнікі В. Ашмян, У. Дзіско, Т. Саўчук). Адрасуецца яна вучням старэйшых класаў, навучэнцам ліцэяў, гімназій, прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, студэнтам, настаўнікам. Ды і ўсе, хто цікавіцца нацыянальным прыгожым пісьменствам, думаецца, пазнаёмяцца з ёю з карысцю для сябе.**

**Найперш дзякуючы двум аглядным артыкулам, напісаным слынным даследчыкам беларускай літаратуры Уладзімірам Казберуком, што змешчаны ў пачатку раздзелаў “Беларуская літаратура XIX стагоддзя” і “Беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя”. Першы з іх называецца “Дарога на Парнас”. Адзначыўшы неспрыяльнасць умоў, у якіх развівалася беларуская літаратура, а калі шырэй — нацыянальная культура, У. Казбярук сведчыць: “У пачатку XIX ст. беларуская літаратура адраджалася і станавілася на ногі, апіраючыся на трох кітоў: на ўласныя нацыянальныя традыцыі, а таксама на здабыткі рускай і польскай культур”. З артыкулаў, што ідуць следам, можна атрымаць найбольш поўнае прадстаўленне пра тых, хто, дзякуючы свайму таленту і спрыяў гэтаму адраджэнню, а гэта аўтары бурлескна-травесційных твораў (“Энеіда навыварат” і “Тарас на Парнасе” М. Лазарука), П. Багрым (“Паўлюк Багрым (1813 — каля 1890)” А. Лойкі), Я. Чачот (“Яркая зорка беларускага адраджэння” К. Цвіркі), Я. Баршчэўскі (“Паэт і казачнік з азёрнага краю” М. Хаўстовіча), У. Сыракомля (“Лірнік беларускай зямлі” К. Цвіркі). Чытач яшчэ глыбей пазнаёміцца і з жыццём і творчасцю В. Каратынскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны, А. Гурыновіча, артыкулы пра якіх напісалі У. Мархель, Я. Янушкевіч, У. Казбярук. У артыкуле Г. Кісялёва “Рыцар свабоды” гаворка ідзе пра К. Каліноўскага. Аўтар прыходзіць да вываду, да якога не лішне прыслухацца: “Плённы ўплыў прамоўніцкага слова Каліноўскага, яго публіцыстычнага майстэрства адчуваецца і дагэтуль. Яго публіцыстыку сёння літаральна разабралі на цытаты. Гэта ўласцівасць класічнай спадчыны. У творах сённяшніх публіцыстаў пульсуюць незабыўныя інтанацыі аўтара “Мужыцкай праўды” і “Пісьмаў з-пад шыбеніцы”. У артыкуле “На хвалі беларускага адраджэння” У. Казбярук прасочвае шляхі развіцця беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя. Робіцца гэта на шырокім сацыяльна-грамадскім і гісторыка-палітычным фоне, пры тым даследчык глядзіць на ўсё “з улікам рэальных фактаў, якія раней не вылучаліся на першы план”, а таксама звяртае “ўвагу на тое, што заўсёды заставалася за кулісамі, за кадрам і што пра сябе не мела права заявіць, нагадаць, інакш кажучы — заняць у нашай свядомасці належнае месца”. Гэта дазваляе чытачу атрымаць праўдзівы малюнак развіцця літаратуры ў згаданы перыяд, адчуць асноўныя тэндэнцыі яе самаўдасканалення.**

**Асобныя артыкулы прысвечаны такім пісьменнікам, як Цётка, Я. Купала, Я. Колас, Ядвігін Ш., М. Багдановіч, А. Гарун, З. Бядуля, М. Гарэцкі, Ц. Гартны. У выніку таго, што творчасць асобных з іх вельмі значная і глыбокая, у некаторых выпадках змешчаны па два разгляды. Так І. Навуменка аналізуе “Пейзажную лірыку Якуба Коласа” і “Дарэвалюцыйныя апавяданні Якуба Коласа”, а У. Казбярук выступае з артыкулам “Зямля — аснова ўсёй Айчыны”. Творчасць М. Багдановіча спасцігаюць Н. Гілевіч (“Ты не згаснеш, ясная заранчка...”) і А. Лойка (“Паэт нараджаецца не аднойчы”). Знаёмства з кнігай пераконвае, што складальнікі падабралі матэрыялы, якія ўсебакова ахопліваюць творчасць тых ці іншых аўтараў. Свае слова прамаўляюць даследчыкі, якія даўно карыстаюцца аўтарытэтам (акрамя згаданых — Р. Бярозкін, У. Гніламёдаў, І. Чыгрын, М. Мішчанчук, А. Клачко). Застаецца пачакаць другую кнігу гэтага двухтомніка, якая будзе прысвечана чарговым перыядам у развіцці нацыянальнага прыгожага пісьменства, а “літаратура”, — кажучы словамі В. Івашына, што вынесены на чацвёртую старонку вокладкі, “плён гістарычнага развіцця народа, крыніца яе сілы ў народным жыцці. І калі народ выходзіць на гістарычную арэну, далучаецца да чалавецтва, тады і літаратура паглыбляе свой інтэрнацыянальны змест, расце пачуццё яе сувязі з літаратурамі свету, права гаварыць за свой народ і за ўсё, што роднiць яго з чалавецтвам”.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАМЯЦЬ

# “А дзе ж шчасце, братцы, наша?”

### ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЦЁТКІ

Гэтае пытанне задавала блізу ста гадоў назад першакурсніца агульнаадукацыйных курсаў П. Ф. Лесгафта ў Пецярбургу Алаіза Пашкевіч. Магчыма, верш “Восень”, з якога ўзяты вышэйпрыведзеныя радкі, напісаны і крыху пазней: даследчыкі літаратуры па-сённяшні дзень не змаглі дакладна ўстанавіць, калі гэта адбылося, таму схільны меркаваць, што ў прамежку 1902—1903 гадоў. А вось на курсы і сапраўды паступіла ў 1902 годзе, закончыўшы перад гэтым сёмы клас віленскай прыватнай гімназіі Прозаравай. Ведама, які час быў. У расійскім грамадстве наспявала рэвалюцыйная сітуацыя, якая ў рэшце рэшт і прывяла да падзей 1905 года, што стаў пачаткам першай рускай рэвалюцыі.

Рэвалюцыя то рускай была, але рускай па афіцыйнай назове, а віталі яе, як перад гэтым і набліжалі, прадстаўнікі розных народаў, якія насялялі вялікую і, як здавалася тады, а гэта і на самай справе было так, магутную імперыю. Аднак лепшыя людзі разумелі, што ніякая магутнасць не можа ўстаяць перад народам. У шэрагу іх была і А. Пашкевіч — дачка заможных сялян з вёскі Пешчына (сёння Шчучынскі раён). Але маленства яе прайшло на ўлонні беларускай прыроды, сярод простага люду, таму яна і не аддзяляла сябе ад тых, хто найчасцей пастаянна жыў са спадзеўкай, што нарэшце пачнецца сяўба і можна будзе чакаць багатага ўраджаю. Аднак чаканні гэтыя заставаліся марнымі і хлеба свайго ставала нядоўга, а пасля зноў даводзілася чакаць...

Толькі колькі можна чакаць? Што чакаць досыць — яна зразумела рана, бо змалку адкрыла для сябе і свет кнігі. Ды не афіцыйнай, у якой усё было хараша і прыстойна, а той, якая гаварыла праўду. Пра занядбанае становішча народа. Пра незайздросны яго лёс. Пра неабходнасць рабіць усё магчымае (і немагчымае!), каб лёс гэты перайначыць. У правільнасці падобных думак А. Пашкевіч яшчэ больш упэўнілася, калі ў 18-гадовым узросце паступіла ў віленскую гімназію. Правучылася, праўда, нядоўга, далася ў знакі цяжкая хвароба. Толькі крылы не склала. Папрацавала на вёсцы настаўніцай і зноў вярнулася ў сцены, якія сталі роднымі. А таму і сталі роднымі, што мела ў гімназіі нямала аднадумцаў. Як і на пецярбургскіх курсах. А яшчэ жыла ў душы прага да прыгожага пісьменства, таму і ўзялася за пяро, каб набалелае выказаць у паэтычных радках. У альманахах “Калядная пісанка” і “Велікодная пісанка”, якія выходзілі ў Пецярбургу, з’явіліся яе вершы “Мужыцкая доля”, “Мужык не змяніўся”, “Нямаш, але будзе”, “Музыкант беларускі”. Іншыя творы ў перыядычны друк не прапаноўваліся, але пісаліся прыкладна ў гэты час.

Тым самым выступіла ў друку раней Янкі Купалы і Якуба Коласа. Увайшла ў літаратуру яшчэ не Цёткай, а як Гаўрыла з Полацка. Карысталася пазней і псеўданімамі Мацей Крапіўка, Тымчасовы... Але ў літаратуры засталася Цёткай. У памяці народнай — таксама. Як свайго роду сувязная паміж Францішкам Багушэвічам і ўжо названымі Купалам і Коласам. Аднак можна праводзіць паралель і іншага кшталту, кідаючы позірк у самую сівую беларускую даўніну. І тады смела можна сказаць, што Цётка спадкаемца Еўфрасінні Полацкай, а ўжо за ёю, Цёткай, ідуць іншыя слаўныя жанчыны-беларускі, у шэрагу якіх і Ларыса Геніюш. І ўсе яны выказніцы духу народнага. Усе пакутніцы духу і адначасова волаты яго.

Псеўданім Гаўрыла з Полацка выбрала невыпадкова. Як бы “прымервалася” да Багушэвіча, жадаючы стаць яго прадаўжальніцай у роднай літаратуры. Пра гэта і засведчыла ў прадмове да сваёй кнігі паэзіі “Скрыпка беларуская” (была яшчэ і “Хрэст на свабоду”, якая таксама выйшла недзе ў канцы 1905 — пачатку 1906 года): “Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то палякам, ці то літоўцам, бо слова тутэйшы мне нексць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую старану, аж покі не папала ў мае рукі “Дудка” Мацея Бурачка; яна то мне сказала, што хто гаворыць па-тутэйшаму, па-мужыцку, значыцца, ён гаворыць па-беларуску, а хто гаворыць па-беларуску, той беларус. Прачытаўшы тую “Дудку”, я сказаў: “Дзякуй табе, Мацей Бурачок! Чэсць і слава тваему слову! А ты, “Дудка”, грай і мне голас дай”. З таго дня пачаў і я майстраваць інструмант. Выйшла з-пад рук “Скрыпка”. Цяпер кручу “Струны”. А ты, Мацей Бурачок, ідзі, ідзі ўздоўж і папярок нашага беднага краю, братоў родных вітай, да курных хат заглядай, мо знойдзеш там артыста, каторы збярэ ўсе нашы беларускія інструменты і наладзіць граннё як мае быць”.

Аднак, становячыся прадаўжальніцай Мацея Бурачка, уваходзячы ў літаратуру Гаўрылам з Полацка, ужо тады, на пачатку сваёй творчай дарогі, дбала аб тым, што знойдуцца і іншыя таленты, якія палічаць за абавязак свой і за гонар для сябе абуджаць народ, выказваць яго думкі. Калі гаварыла пра “артыста, каторы збярэ ўсе нашы беларускія інструманты”, пра артыста, які “наладзіць граннё, як мае быць”, канечне ж, мела на ўвазе і пісьменнікаў, найпершых паэтаў, а не толькі артыстаў, музыкантаў. І ў гэтым сваім памкненні далёка наперад глядзела, усведамляючы тую вялікую ролю, што належыць літаратуры ў справе нацыянальнага адраджэння і абуджэння.

Гэтым клопатам напоўнены і верш “Восень”. Нярадасныя малюнкі прыроды ў ім — толькі фон, на якім раскрываецца жыццё народнае. Жыццё праз успрыманне Гаўрылы з Полацка:

*Чуць не згрыз сабе я пальцаў,*
*Прыраўняўшы, паглядзеўшы*
*Наша жыцце. Ўпаў, замлеўшы,*
*Прымкнуў вочы; бачу твары*
*Ўсе знакомы: пры алтары,*
*На хрысцінах, на вяселлі,*
*То на йгрышчы, то ў касцелі,*
*То пры працы, то пры песні*
*Тут і слёзы, тут балесці,*
*Тут магілы, тут і труны,*
*Тут грамніцы, тут цалуны...*
*Нейка пекла, нейка каша*
*А дзе ж шчасце, братцы, наша?*

Задавала сабе гэтае пытанне, але і іншым. І не толькі беларусам. Бачыла сябе і народ свой у дружнай грамадзе поруч з рускімі, украінцамі... Поруч з усімі, хто знаходзіўся ў няволі. Таму і нарадзіўся верш “Суседзям у няволі”:

*Ад сваіх хат, ад сваіх ніў,*
*Ад усіх братоў, хто толькі жыў,*
*Нясу слязу, нясу я стогн,*
*Нясу нагаек царскіх звон.*
*У нас там ноч, у нас там стук,*
*Мы ацямнелі з страшных мук,*
*З нас пот ліецца, сохнуць грудзі.*
*Нас катуюць! Чуйце, людзі!*
*Чуйце, чуйце, руку дайце!*
*Мы вам родны. Праўду знайце:*
*Ці у долі, ці ў нядолі —*
*З вамі станем ў адным полі,*



*Помнік Цётцы у г.п. Астрына Шчучынскага р-на*

***Рука ў руку з нашым братам***
***За свабоду перад катам.***

Дарэчы, менавіта гэты верш і стаў прычынаю забароны ў Расіі кнігі “Скрыпка беларуская”. Як, між іншым, і зборніка І. Свянціцкага “Відродження білоруського письменства”, у якім ён быў апублікаваны цалкам. Але ж былі і іншыя вершы — куды больш бунтарныя, што ў дні Усерасійскай кастрычніцкай палітычнай стачкі 1905 года ў Вільні і іншых гарадах Беларусі (тады, зразумела, Паўночна-Заходняга краю) распаўсюджваліся ў выглядзе праклламацый, агітак ананімна — “Мора”, “Хрэст на свабоду”, “Пад штандарам”.

“Мора” невыпадкова мае падзагаловак “Рэвалюцыя народная”. Гэта па сутнасці тая ж “Песня буравесніка”, толькі ў яе беларускім варыянце. І яшчэ невядома, у каторым з твораў больш моцны рэвалюцыйны пафас:

***Такі бой вякамі ждэцца,***
***Такі бой гігантаў дасць,***
***Ў такім баю толькі грэцца,***
***Ў такім баю толькі пасць.***

Тады пераважная большасць тых, хто гатовы быў аддаць сваё жыццё за светлыя ідэалы свабоды, роўнасці, братэрства і не здагадваліся, што радкі гэтыя напісаны кволай жанчынай, якой Бог не даў здароўя. Праўда, даў іншае: моцную волю, вялікі талент. А яшчэ прыгажосць. Як унутраную, так і знешнюю. І яна, не зважаючы на здароўе, працавала так шмат і гэтак апантана, нібыта дадзена наперад ёй яшчэ не адзін дзесятак гадоў. Пісала не толькі вершы, а і апавяданні, артыкулы. Займалася рэдактарска-выдавецкай дзейнасцю. Дзякуючы яе рупнасці ў 1914 годзе выйшла шэсць нумароў першага на Беларусі літаратурнага і навукова-папулярнага ілюстраванага часопіса для дзяцей і юнацтва “Лучынка”. І

# Наша Цётка

Жыву я ў Гародні, працую ўжо каля трыццаці гадоў у вучэльні мастацтваў, якая, адзіная ў рэспубліцы, носіць імя Цёткі. Кожны дзень, ідучы на працу, страчаю вачыма шыльду, на якой залатымі літарамі выбіта імя паэткі.

І вось аднойчы прыйшла думка — пацікавіцца ў сваіх выхаванцаў, хто такая гэтая Цётка з шыльды вучылішча. Адказы пачула самыя розныя: пісьменніца, артыстка, палітычны дзеяч, гераіня Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны культасветработнік і г. д. Крыўдна стала, сорамна. Хацелася адразу нешта рабіць, каб запоўніць гэты прагал у ведах навучэнцаў. Перш-наперш сабрала ў бібліятэцы ўсю літаратуру, якая мелася там па Цётцы. Па некалькі разоў перачытвала творы Цёткі, яе біяграфію, літаратурную крытыку. У выніку я “захварэла” Цёткай і нават напісала пра яе паэму.

Але не пра гэта я хачу распавесці, а пра тое, як страчае наша вучэльня 125-ю гадавіну з дня нараджэння нашай знакамітай зямлячкі.

Яшчэ ў красавіку загадам дырэктара быў створаны арганізацыйны камітэт, у склад якога ўвайшлі самыя творчыя і таленавітыя выкладчыкі розных спецыяльнасцяў: рэжысёры, харэографы, мастакі, харавікі, літаратары, сцэнарысты. Распрацаваны сцэнарый тэматычнага канцэрта, рэжысёрам якога абрана Ларыса Пархамчук. Абвешчаны агульнавучылішчны конкурс творчых работ сярод навучэнцаў і выкладчыкаў. Работы могуць уяўляць сабой літаратурны твор (сачыненне, эсэ, верш, апавяданне) ці музычны, літаратурна-музычную кампазіцыю, паэтычны спектакль, твор жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, забаўляльную праграму, віктарыну. Першыя спробы пяра ўжо паступілі ў арганізацыйны камітэт. Гэта вершы Д. Кур’яновіча і Н. Халімон, літаратурны спектакль М. Урбановіч, песні на вершы Цёткі Г. Кебіча.

У рамках падрыхтоўкі да святкавання юбілейнай даты 6 чэрвеня ў вучылішчы адбыўся конкурс чытальнікаў, удзел у якім узялі навучэнцы, у асноўным аддзялення рэжысуры народных абрадаў і святаў. Галоўным завадатарам і арганізатарам такіх конкурсаў, у тым ліку і ўжо каторы год з’яўляецца выкладчыца культуры мовы, неабыякавы да роднага слова і нацыянальнай спадчыны, ініцыятыўны і працавіты чалавек — Ганна Марушка, аўтарка шматлікіх літаратурных кампазіцый.

Плануецца пленэр навучэнцаў аддзялення дызайну, на радзіме паэткі — у вёсцы Пешчына Лідскага раёна і ў вёсцы Стары Двор Шчучынскага раёна, дзе яна пахавана. Два тыдні навучэнцы будуць пісаць эцюды, рабіць замалёўкі з натуры ў тых маляўнічых мясцінах роднага краю, пра якія пясняркa гаварыла заўсёды з вялікай любасцю і замілаванасцю.

У маі ў вучэльні адбыліся краязнаўчыя чытанні, удзел у якіх узялі не толькі навучэнцы, але і выкладчыкі. З упэўненасцю магу сказаць, што намаганні выкладчыкаў, якія падрыхтавалі чытанні — а гэта старшыня цыклавой камісіі сацыяльна-гуманітарных дысцыплін І. Шалкевіч і выкладчык краязнаўства і музеязнаўства С. Гаўрылік, — былі не марныя. Па вачах і па выказваннях прысутных было зразумела, што і тут мы на правільным шляху. Бо мы перакананы ў тым, што ведаць гісторыю, арыентавацца ў стагоддзях і постацях, каб нашанаваць імёны і подзвігі продкаў, багаціць душу мастацкім словам, якое можа данесці ў сённяшні дзень подых вятроў, кліч ваяроў і барацьбітоў за народнае шчасце — вялікі доўг наш перад Бацькаўшчынай...

Беларускай пясняркі не давялося доўга служыць роднаму краю: яе жыццёвая дарога абарвалася вельмі рана. Усю сваю энергію і здольнасць аддала яна барацьбе за народнае шчасце, ускладаючы вялікую надзею на мо-

яна ж, Цётка, стала аўтарам "Першага чытання для дзетак беларусаў", кнігі "Гасцінец для малых дзяцей". Была і праца міласэрнай сястрой. Ды і шмат задумак.

Пра частку з іх можна даведацца з яе ліста, дасланага ў 1914 годзе (дата не ўказана) Браніславу Тарашкевічу. Падказвала:

"Студэнтам-жэўжыкам дай тэмы:
"Пінскія балоты і іх асушка".
"Гісторыя балот".
"Пяскі Гродзенскай губерніі і занос пяскамі штораз большых абшараў".
"Змаганне лясных гатункаў дрэў".
Называла і іншыя тэмы:
"Зацьменне сонца".
"Слонца, месяц"
"Эміграцыя ў Амерыку".
"Нацыяналізацыя зямлі".

Шмат пра што і сама пісала: "Наша народная песня", "Пералётныя птушкі", "Збірайце матэрыялы аб батлейцы!", "Газа". І нязменна заклікала зберагаць і прапагандаваць усё беларускае. Пры гэтым вялікія спадзяванні ўскладала на моладзь. Характэрны ў гэтым сэнсе артыкул "Шануйце роднае слова!"

"На вас — моладзі — ляжыць вяліка павіннасць: развіваць далей родну мову, узбагачаць свой народ знаннем і культурай. Вы здабываеце навуку для сябе, дык дзяліцеся ёю з тымі, хто для вас цяжкай працай здабывае кусок хлеба. Толькі не кідайце роднай мовы: бо запраўды для свайго народу тады вы ўмёрлі!".

Як запавет гучала:

"Мейце сілу і адвагу дзяржацца роднага слова. Мейце смеласць усюды голасна казаць па-свойму. І, гледзячы на вас, асмеляцца і іншыя, зразумеюць, што шчырае сэрца беларускае б'ецца не толькі пад мужыцкай сярмягай, паверацьу уласныя сілы свае і пойдуць цвёрдай ступой да лепшай будучыні, да ясных зор шчасця народнага".

Прамоўлена ў 1914 годзе ў трэцім нумары часопіса "Лучынка". Артыкул пададзены без подпісу, а гэта яшчэ адно пацвярджэнне, што яго трэба ўспрымаць праграмным. І для самой Цёткі, і для выдання, якому яна аддавала столькі сілы.

На жаль, жыць ёй заставалася нядоўга. У пачатку студзеня 1916 года, даведаўшыся, што бацька цяжка захварэў, паспяшалася з Вільні, дзе працавала медыцынскай сястрой, да яго. У жывых не заспела, але з землякамі развітвацца не спяшалася, бо пачалася эпідэмія тыфу. Ратавала старых, дзяцей. Ратавала будучыню. Сябе не ўратавала... Жыццё яе абарвалася ў ноч з 4 на 5 лютага 1916 года.

Яшчэ ў 1906 годзе пад уражаннем знаёмства ад кнігі Цёткі Янка Купала напісаў ёй верш-прысвячэнне: "Аўтарцы "Скрыпкі беларускай":

*Чутка іграеш, гулка іграеш*
*Ты на скрыпачцы сваей,*
*К небу з думкай падлятаеш,*
*Шчасця зычыш для людзей...*

Шчасця яна, як бачым, не дачакалася. Ды і для нас пытанне, зададзенае ёю на пачатку мінулага стагоддзя, шмат у чым застаецца яшчэ адкрытым. Толькі не павінна пакідаць тая ўпэўненасць, што жыла пастаянна ў яе сэрцы:

*Веру, братцы: людзьмі станем,*
*Хутка скончым мы свой сон;*
*На свет божы шырэй глянем,*
*Век напіша нам закон...*

Як вядома, адна з самых вызначальных якасцяў сапраўднай літаратуры, што яна заўсёды застаецца сучаснай. Перачытваючы Цётку, лішні раз пераконваешся, наколькі гэта справядліва.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**
*Фота Ул. КРУКА.*

---

ладзь. І сённяшняя наша моладзь спраўджвае надзеі таленавітай і мужнай пяснячкі.

**Людміла КЕБІЧ,**
**намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Гродзенскай вучэльні мастацтваў**



*Кветкі на магілу Цёткі ад Янкі Брыля (у дзень стагоддзя), 1976 г.*

---

ВІНШУЕМ!

# Слова ўдзячнасці і пашаны

## ДА 85-годдзя Уладзіміра ЮРЭВІЧА

У "бліц-інтэрв'ю" з Уладзімірам Міхайлавічам Юрэвічам я заўважыла, што найболыш выразна, фотагенічна яго асоба бачыцца мне ў грамадскім ракурсе. "Нічога дзіўнага, — адказаў ён. — Ледзь не з самага свайго пачатку ўсведамляць сябе я стаў "грамадскім" чалавекам, дыхаў гістарычным паветрам, з маленства далучаны да жыцця на крутых яго паваротах".

Насуперак спробам найноўшых нігілістаў ачарніць паслярэвалюцыйнае мінулае, У. Юрэвіч, цвяроза ацэньваючы яго набыткі і выдаткі, вызначае непаўторную ментальнасць свайго пакалення: прыярытэт духоўных каштоўнасцей, творчы энтузіязм, сацыяльную актыўнасць, рамантычную акрыленасць мары, часам, бясспрэчна, занадта аддаленай ад грэшнай зямлі. Сучасны прагматык можа, вядома, пакпіць і нават кінуць камень таксама ў непрактычнага, непрадбачлівага летуценніка Ікара...

Уладзімір Міхайлавіч вылучае яшчэ, бадай, галоўны, спрадвечны фактар станаўлення чалавека — мікрасвет сям'і. Яму надзвычай пашанцавала. Дзед яго, Турчановіч Мікалай Фёдаравіч, загадчык народнага вучылішча, падпісваў пасведчанне аб пачатковай адукацыі Янку Купалу. Бацькі: Міхаіл Нікіфаравіч і Таццяна Мікалаеўна — вясковыя настаўнікі, вучылі дзяцей і працавалі на гаспадарцы. Выпускнік Ашмянскай настаўніцкай семінарыі Міхаіл Юрэвіч аднолькава спрытна трымаў у руках і пявучую скрыпку, і розныя працоўныя прылады, як і "семінарысты" Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Янка Маўр. Дарадчык, памагаты, чалавек шчодрага сэрца, ён заслужыў глыбокую павагу сяльчан. Былы яго вучань, ветэран беларускай літаратуры Ігнат Дуброўскі згадвае прыход настаўніка ў іхнюю хату пасля расстрэлу белапалякамі бацькі, вясковага актывіста: "Супакойцеся, дзеці, — сказаў ён. — Людзі вас не пакінуць. Будзеце жыць..."

Не памятаю ніводнага аповеду Уладзіміра Міхайлавіча без прысутнасці ў ім вобраза бацькі. Вось яны ўдвух на бурлівым вясковым сходзе, дзе гучаць нязвыклыя словы "калектывізацыя", "калгас", "трактар"... Вось ён, піянер, запальвае лямпы, рыхтуе памяшканне, пісьмовыя прылады для заняткаў па "лікбезу". Разам з маці вучыць парэпаныя, непаслухмяныя пальцы дзядзькоў і цётак трымаць аловак. Ён адчувае прагу пазнання і адчувае недаадольную стомленасць людзей, якія засынаюць за сталом.

Карціны дзяцінства стануць пазней для крытыка і літаратуразнаўцы У. Юрэвіча дакладнай мерай жыццёвай і мастацкай праўды пры даследаванні творчасці вядомых беларускіх празаікаў: В. Быкава, І. Шамякіна (асабліва, паводле яго слоў, "Палескай хронікі" І. Мележа), паэтаў (У. Дубоўкі, В. Віткі і інш.). У кнігах "Слова і вобраз" (1961), "Шматгалоссе жыцця" (1965), "Погляд" (1974), "Абрысы" (1976), шматлікіх артыкулах ён прасочвае складаны шлях мастацкай трансфармацыі слова ў вобраз, паказвае дасканаласць твора як вынік гарманічнага суладдзя зместу і формы.

Яркай старонкай творчай дзейнасці У. Юрэвіча з'яўляюцца кнігі для дзяцей ("Тараскавы турботы", "Дзе начуе сонца?", "Дождж-жык на колах"), дзе адбываецца нязмушанае далучэнне малога чалавека да прыгажосці навакольнага свету, выхаванне "пачуццяў добрых" (А. Пушкін) і праз іх — усведамленне паняццяў "Родная зямля", "Бацькаўшчына". У. Юрэвіч — аўтар нарысаў-партрэтаў "Янка Купала. Нарыс жыцця і творчасці", "Янка Купала — наш сучаснік". У яго літаратурным запісе выйшла аповесць Героя Савецкага Саюза М. Новікава "Пять шагов жизни".

Выбар прафесіі У. Юрэвіч рабіў свядома: як і старэйшы брат Алесь, закончыў педтэхнікум, стаў настаўнікам, пасля па закліку часу ("Тэхніка вырашае ўсё!") — Мінскі політэхнічны інстытут. Але суіснаваў у яго душы побач з фізікам лірык, які, урэшце, і перамог...

Службу Яго Вялікасці — роднаму Слову У. Юрэвіч пачаў васемнаццацігадовым дыктарам Беларускага радыё, вернасць якому захаваў назаўсёды. У гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў на радыёстанцыі "Савецкая Беларусь" (Масква), удзельнічаў у перадачы Зводак Савінфармбюро, заслужыў вядомасць як "беларускі Левітан". Працуючы на розных адказных пасадах у рэспубліканскім і цэнтральным перыядычным друку, СП Беларусі, на Беларускім радыё і тэлебачанні, — ён быў заўсёды работнікам пярэдняга краю жыцця і літаратуры, нязменным у сваёй іпастасі Публіцыста.

Маё знаёмства з Уладзімірам Міхайлавічам і адбылося ў СП Беларусі, на пасяджэнні секцыі публіцыстыкі і нарыса, якой ён кіраваў у 1974—85 гадах. Бачу яго звычайна ў пары з Іванам Чыгрынавым — спачатку загадчыкам аддзела публіцыстыкі часопіса "Полымя", пасля сакратарам СП, куратарам секцыі. Вёў пасяджэнні Юрэвіч, задуменны Чыгрынаў пазіраў праз шкельцы акуляраў кудысьці ўдалеч і быццам не вельмі ўважліва слухаў, але ў заключным слове, абагульненнях, ацэнках даследчана, аргументавана ставіў усё на свае месца. Таленавітыя арганізатары і прапагандысты публіцыстыкі, яны зрабілі шмат для таго, каб баявы жанр-разведчык заняў годнае, належнае яму месца ў літаратуры. Дзякуючы іх намаганням, ініцыятыве была падрыхтавана і выдадзена першая анталогія беларускай публіцыстыкі "Беларускі савецкі нарыс" у двух тамах (1977) — скарбонка мастацка-дакументальнага летапісу ад пачатку XX стагоддзя.



Шматгалосыя, дыскусійныя пасяджэнні секцыі публіцыстыкі былі сапраўднымі творчымі семінарамі, карысным і для пачаткоўцаў, і для сталых майстроў пяра. У "авальную" (назва па форме вялікага стала) залу ахвотна прыходзілі празаікі і паэты. Неадноўчы секцыя выступала на абарону вострапраблемных сумленных публікацый у сувязі з іх ігнараваннем, уціскам з боку розных ведамасных устаноў (праблемы "неперспектыўных вёсак, экалогіі ў нарысах І. Дуброўскага, А. Казловіча, В. Якавенкі, В. Мысліўца і інш.). У напале эмоцый, страсцей, супрацьстаянні пазіцый і амбіцый выяўлялася сапраўдная інтэлігентнасць, прафесійная этыка, прыклад кіраўніка, стрыманага, добразычлівага, але і прынцыповага, патрабавальнага. Шырока дасведчаны, вопытны тэарэтык і практык, У. Юрэвіч быў непрымірымым да несумленнасці, безадказнасці, амаральнасці ў творчасці і асабістых дачыненнях людзей. Ён гаварыў аб разбуральнай сіле бескантрольнага слова, калі яго свабода, галоснасць усведамляюцца як усёдазволенасць. Ён заклікаў да адказнага выкарыстання яго стваральнага, духоўнага патэнцыялу.

Многія публіцысты з удзячнасцю згадваюць "школу" Юрэвіча і Чыгрынава, сярод іх і цяперашні кіраўнік секцыі публіцыстыкі



*У. Юрэвіч, Н. Гілевіч, Д. Міцкевіч (сын Я. Коласа), 1985 г.*



*Творчы вечар У. Юрэвіча ўвдзе У. Ліпскі, 1986 г.*

Уладзімір Глушакоў. Сам Уладзімір Міхайлавіч ацэньвае сваю працу лаканічна, але, безумоўна, трапна: "Працавалі, як трэба было". Шматгранная і значнасць гэтай працы ўвасоблена ў прысвоеным яму ганаровым званні "Заслужаны работнік культуры Беларусі".

Знаўца, ахоўнік і папулярызатар роднай мовы, У. Юрэвіч і сёння ў якасці няштатнага супрацоўніка вядзе асветніцкую работу, кіруе на Белрадыё радыёклубам "Жывое слова" для старшакласнікаў, выступае ў перыядычным друку, з'яўляецца зноў жа няштатным усеагульным літкансультантам.

Вялікую заклапочанасць Уладзіміра Міхайлавіча выклікае маральная дэградацыя сучаснага грамадства, рэальная небяспека духоўнага Чарнобыля для нашага генафонду, будучыні Беларусі. Як не пагадзіцца з ім, што настаў час аздараўлення СМІ — магутнага сродку фарміравання свядомасці сучасніка. Настала пара выгнання з іх храма "козлищ" заходняй "масавай культуры", якая ўкараняе чужародныя стэрэатыпы мыслення і паводзін — культ гвалту, эгацэнтрызм, разбэшчанасць асобы, прымітыўны густ. Відавочная мэта гэтага ўжо незавуаляванага стратэгічнага плана — пазбавіць чалавека гістарычнай памяці, адарваць ад роднай глебы, спрадвечных нацыянальных традыцый — зрабіць з яго манкурта. Трэба, урэшце, усвядоміць небяспеку духоўнага абеззбройвання і пачаць неадкладна абарону самой нашай існасці, прытым — на вышэйшым урадавым узроўні.

Пачуўшы пра мой намер сказаць аб ім юбілейнае слова, Уладзімір Міхайлавіч нават з нейкай боязню сказаў: "Толькі не зрабіце з мяне чыноўніка!". Перасцярога дарэмная: калі і было б такое жаданне, нічога з гэтага не атрымалася б. Не той матэрыял, не тая фактура... А ў сваім шчырым віншаванні скажу так: "Глыбокапаважаны Уладзімір Міхайлавіч! Жадаю Вам добрага здароўя. Няхай атуляюць Вас заўсёды Святло, Цеплыня, Вера і Надзейнасць жыцця, каб і надалей Вы зручна адчувалі сябе ў сваёй нязменнай форме Грамадскага Чалавека. Каб былі самім Сабой! Большага, відаць, і не трэба. А як маркуеце Вы?"

**Антаніна ЛЫСЕНКА**
*Фота Ул. КРУКА*

## "Міг выратавання"

**Рычард Бялячыц родам з вёскі Стаўбуры, што на Астравеччыне, а жыве і працуе на Шчучыншчыне. Першая яго кніга "Сакавіцкае крыло" ўвайшла ў калектыўны зборнік "Лагодны промень раніцы", які пабачыў свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1988 годзе. У 1995 годзе з'явілася "Прасветлінка" — стала чарговым выпускам "Бібліятэкі часопіса "Маладосць". І вось — "Міг выратавання", што надрукавана Гродзенскім абласным грамадскім аб'яднаннем "Ратуша" пры**




**падтрымцы фонду "Альянс Каўнтэрпарт", Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).**

**Назву зборніку даў аднайменны верш, што стаіць у кнізе трэцім. Не лішне прывесці яго цалкам, бо ён дае мажлівасць адчуць, як душа лірычнага героя паэта змарнавалася па дабрыні і шчырасці, як прагне яна ачышчэння ад друзу паўсядзённасці, знаходзячы заспакаенне і пастаянства ў тым вечным, што спадарожнічала чалавеку заўсёды:**

*Дзень канчаецца.*
*І лес паволі стыне.*
*Стынуць і баляць чыесьці слёзы.*
*З сонечнага боку на вяршынях*
*Развітальна ўспыхнулі бярозы.*

*Не, не тое...*
*Над зямлёю гэта —*
*Спеўны міг выратавання лося.*
*Гэта ўсё, што спраўдзілася летам,*
*Што ў мяне ад шчасця засталося.*

**І не толькі засталося, але і стала часцінкай таго святога, што, незалежна ад эпохі, не страчвае сваёй першароднай чысціні.**

**Дарэчы, адзін з вершаў Р. Бялячыца так і называецца — "Святое":**

*Мне бачыцца адсюль не ўпершыню:*
*У цемень печы*
*Без трывогі і дакору*
*Пасадзіць маці*
*Светлы куст агню*
*І пацеры за нас усіх згаворыць.*

**Святое — на зямлі маленства. Святое ў памяці аб найшчаслівейшых у жыцці днях, што былі звязаны з ім. Згадкі аб гэтым незабыўным нараджаюць прачулыя радкі, што як бы прамаўляюцца самой душой. Як у гэтым безыменным вершы:**

*І мне здаецца, што я дома,*
*І нават рэчку перабег*
*Імклівым рэхам крыгалома*
*Дзіцячы смех,*
*Сабачы брэх.*

**Вобраз атрымаўся пераканаўчым і праўдзівым дзякуючы менавіта гэтаму спалучэнню: "дзіцячы смех" — "сабачы брэх", што само па сабе пераносіць у вясковае маленства з яго бестурботнасцю і непаўторнасцю.**

**Р. Бяляцкі не абыходзіць увагай і стасункаў чалавека з тым асяродкам, у якім ён знаходзіцца пастаянна. Яго лірычны герой, як быў дзіцем вёскі, так і застаўся ім, таму і прызнаецца: "душуся ў страсці вуліц" — вуліц горада. І, наадварот, вёска для яго — нязменнае ачышчэнне, у чым пераконвае верш "Вячэрняе":**

*Сцяжыны дум маіх суцішаных*
*Пралягуць светла паміж зор.*
*Апошнім словам*
*Асвяці на міг*
*Ты, пакідаючы мой двор.*

*Бяссонніца як палюбоўніца,*
*Па хвалях павядзе на мляўы плёс.*
*Радкі пяшчотаю напоўняцца,*
*Сыходзячы пад вокладку нябёс.*

**У гэтай зямной напоўненасці і прывабнасць як новай кнігі Р. Бялячыца, так і ўсёй яго паэзіі.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

Ніна МАЕЎСКАЯ



# "Я не так гэты дзень пражыла..."

•

*Бабка за дзедку,*
*дзедка за рэпку...*
*Не казкай тлумлю галаву.*
*Бабка за дзедку,*
*дзедка за рэпку —*
*Так вось цяпер я жыву.*
*Жыву-пажываю,*
*А што нажываю*
*Я на сваю галаву?*
*Клічу ўнучку,*
*Жучку і кошку.*
*Мчацца вясёла наўскач.*
*"Кожны, як можа,*
*кожны патрошку..."*
*А рэпка ні з месца,*
*хоць плач.*
*Проста на дзіва*
*Рэпка ўрадзіла,*
*Нібы вялізны гарлач.*
*Костачку — Жучцы,*
*Цукерачку ўнучцы:*
*"Возьмемся, дзеткі, дружней!"*
*Рыжая кошка*
*Ступае дарожкай:*
*"Дайце што-небудзь і мне",*
*Бабка за дзедку,*
*дзедка за рэпку,*
*Вось ужо й мышка бяжыць...*
*Толькі б наш дзедка трымаўся за рэпку,*
*Будзем мы з ім неяк жыць.*
*Калі будзе згода і ціхі ў нас час,*
*Няхай сабе рэпка трымаецца чэпка,*
*Нідзе ёй не дзецца ад нас.*

•

*Намокла вішня каля хаты,*
*Абвісла лісце.*
*А дождж халодны і зацяты,*
*У сад не выйсці.*
*Чаго ж ты, птушачка, самотна*
*Сядзіш у голлі?*
*Глядзіш панура і гаротна.*
*Дай крылам волю!*
*Ляці, ляці ты ў цёплую краіну,*
*Дзе поўна сонца.*
*І я магла б, канечне, усё пакінуць,*
*Ляцець бясконца.*
*Ды толькі, ведаю, — не будзе*
*Нідзе спакою.*
*Мне сэрца холадам астудзіць*
*Жыццё чужое.*
*Павер, і я хачу у вырай —*
*Мне ўсё няміла.*
*Ды у крутым жыццёвым віры*
*Аслаблі крылы.*
*А ты ляці, ляці адгэтуль,*
*Не запыняйся.*
*А возьмеш там на крылы лета,*
*Хутчэй — вяртайся.*

•

*Беларусь — мая белая вішня!*
*Як пасуе табе веснавы гэты ўбор.*
*Ты сягоння нявестаю выйшла —*
*Еўрапейскі ляжыць прад табою*
*прастор.*
*І народ твой — цярплівы і мужны.*
*Ды сумненні й развагі яго ты*
*паймі:*
*Ну навошта ёй гэта замужжа?*
*Як там будзе ў вялікай, нязладнай*
*сям'і?*
*І прыціхлі лясы твае й рэкі.*
*І туманы наўкруг разлілі сырадой.*
*Беларусь, заставайся навекі*
*Незалежнаю і маладой!*

•

*Звальваем усё на век:*
*Маўляў, такі ён жорсткі і шалёны.*
*Як сябе тут пачувае чалавек?*
*Дзе яго статуты і законы?*

*Не, тут вінен не адное час,*
*Што мы ў ілжы сядзім, як у балоце.*
*Штосьці, мусіць, у саміх, у нас —*
*І гнюсім мы, і хлусім па сваёй ахвоце.*

*Пошасці не можам сказаць: "Не!"*
*Руку даем не тым мы у прывеце.*
*Думаем, што гэты век міне,*
*І само сабою штосьці зменіцца ў свеце.*

*Час бяжыць, як сотні год назад,*
*Сінее неба сонца дзень залоціць,*
*Дык ад чаго маркотны твой пагляд?*
*Хто музыку заказвае — той плоціць...*

•

*Я не так гэты дзень*
*пражыла.*
*Што са мною?*
*Не ведаю, не разумею.*
*Я чужой — не сабою была,*
*Я не так гэты дзень*
*пражыла.*
*Сэрца холад мне сціў,*
*Ці любіць яно больш не*
*умее?*

*Я не так гэты дзень*
*пражыла.*
*Не сказала нікому*
*я добрага слова.*
*Божа мой, да цябе*
*я прыйшла,*
*Бо не так гэты дзень*
*пражыла.*
*Ты вярні мне яго.*
*І пражыць дай нанова.*

•

*Дагукалася я да народа свайго,*
*дагукалася.*
*Рэхам слова маё ў рэшце рэшт*
*адазвалася.*
*Чыста, хораша і без прынукі*
*Вершы чытаюць мае*
*камунараў унукі.*
*Там, дзе пошум бароў,*
*дзе гамоняць гаі,*
*Словы чутны мае*
*там, на роднай зямлі.*
*Новы, моцны і малады*
*адазваўся народ.*
*Дзякуй, Божа табе,*
*наш жывы радавод!*
*Ў Прыарэссі, на мілай палескай*
*зямлі,*
*Дзе Купалавы сцежкі — не зараслі.*
*І ад радасці я не хаваю*
*тут слёз:*
*Мой народ тут — жывы!*
*О шчаслівы мой лёс!*



Летні вечар... Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

ПРОЗА

Памяці маці Надзеі Іосіфаўны

Ішоў трэці год вайны. Цёплы для канца сакавіка дзень скончыўся, перайшоў у задумлівы надвячорак. Надзея Мадалінская з даёнкаю ў руцэ прыпынілася ля хлява. Побач, на дрывотні, гуляў з трэскамі яе васьмігадовы сынок Петрык. Надзея не спяшалася даіць, чакала — кароўка яшчэ са смакам хрумстала дробна пасечаныя буракі. Жанчына ведала, што пасля, як пaласуецца смакоццем, яна аддасць малачко да крапелькі. Звонкая цішыня апусцілася на голае поле вакол хутара. Яно пасля маразоў і сцюж, глыбокага снегу ажывала, вольна дыхала. Пунсовае сонца крывавіла слупы дымоў з комінаў над хатамі нябачных з хутара — хавалісе за пагоркам — Валавічаў. Там мешкавала нямецкая вайсковая часць, адведзеная з далекаватага адсюль фронту. Хутар Мадалінскіх туліўся ля альховага гаю ў нізінцы, за паўвярсты ад грунтоўкі, што злучала Валавічы і Вазачы. Надзеін гаспадар пасля палудня з нажоўкаю і сякеркаю пакіраваў у гай па сушняк — распальваць сыраватыя сасновыя дровы, прывезеныя з нябліzкага, неспакойнага цяпер старога лесу. З трэскамі ад сасновых цурбачкоў і гуляў сын. Убачыўшы, што маці стаіць з даёнкай і не ідзе да каровы, ён не спыняючы свайго занятку, запытаў:

—Мамачка, чаму не ідзеш даіць?

—Ой, сыначку, вельмі ж хораша на двары, — гаспадыня ласкава паглядзела на Петрыка, а сама сабе падумала: "Літасцівы Божа, пашлі нам з цяплом нарэшце і мірны дзень..."

Раптам з недалёкага пагорка, дзе была сяліба суседа Сяргея Баравіка, пачуўся крык. Крычала Сяргеева Насця:

—Каб вас халера ўзяла! Куды вы яго нанач? Паездзеце-пакатаецеся, а пасля кінеце Бог ведае дзе!..

У адказ чулася нямецкая гаворка, смех.

"Пэўна, франтавікі Сяргеевага каня забіраюць", — спачуваючы суседзям, падумала Надзея і цяжка ўздыхнула.

Неўзабаве сапраўды з Баравіковага двара на дарогу выехалі калёсы з двума немцамі і загрукаталі ў бок Вазачоў. Петрык выбег з дрывотні і глядзеў на дарогу. Насупраць Мадалінскіх немцы на хвіліну запынілі каня, а потым, няйначай, аб нечым параіўшыся, скіравалі напрамкі, па восеньскім ворыве, да іх. Надзея насцярожана сачыла за набліжэннем чужынцаў.

Калёсы спыніліся ля гумна, адзін з седакоў саскочыў на зямлю, падышоў да Надзеі.

—Во іст хазяйн?

—Няма дома, — са страхам вымавіла жанчына.

—Некрашо, некрашо, — немец паматляў галавою, усміхнуўся малому Петрыку.

—А што трэба? — са страхам глянула на чужака Надзея.

—Мутэр не валнавайсь, — усмешка зноў кранула немцаў твар. — Нам нужна этот конь злой фрау вазврашчайт.

—Дык як узялі, то і вернеце, — у Надзеі трохі адлягло ад сэрца, і яна толькі цяпер убачыла, што ў немца худы, змораны, са спагадлівымі, зусім добрымі вачыма твар.

—Вір фарэн за картопля, потым выгружайт, а возвращайт конь — нет каму. Можэт, он нам помагайт? — немец паказаў на Петрыка. Надзея не паспела сказаць, што ён малы, што памочнік з яго ніякі, як Петрык, раней за матку зразумеўшы немца, падахвоціўся:

—Я адганю каня, я ўмею...

Даёнка выпала з рук жанчыны, а сама яна, збялелая, у роспачы ці не нема пярэчыла сыну, разумеючы, што не адгаворыць, бо яму найвялікшая радасць — пакіраваць канём.

—Зэр гут кляйнэ, — немец тут жа падхапіў Петрыка на рукі і пасадзіў на месца фурмана. Хлопец ухапіў лейцы, радасна ўсміхнуўся маці і пагнаў каня ледзь не галопам на грунтоўку. Надзея разгублена глядзела ўслед і не магла ўцяміць, як усё адбылося. Пайшла ўрэшце даіць карову, але ад хваляванні часта цыркала малаком міма даёнкі.

Працадзіўшы сырадой, зноў выйшла на двор, паўзіралася на дарогу: Петрыка не было відаць. Сонца села за Вазачы, а яна не ішла ў хату, глядзела туды, дзе была вёска, куды паехаў Петрык з немцамі, услухоўвалася, ці не заляскочуць там калёсы, не прагрукочуць па мастку цераз канаву, што ідзе міма іхняга хутара да сенажацяў, за якімі — стары, без канца і краю, лес. Але там было маркотліва глуха і маўкліва.

Павольна апускаўся, гусцеў змрок.

"І бацька той як прырос там — не

Мікола ДУБОЎСКІ

# ДРАЙ УНД ДРАЙСІГ



АПАВЯДАННЕ

"йдзе дамоў", — Надзея не магла дараваць сабе, што сілком не загнала сына ў хату. Вінаваціла і бацьку. Гэта ж ён прывучыў малога адводзіць суседзям каня, калі бралі яго ў Сяргея пасадзіць бульбу ці прывезці што з поля. "Каб не прынадзіў сына, не сеў бы ён у воз да чужынцаў!" Балючыя трывожныя думкі прыбягалі ў галаву.

Нарэшце ад гаю пачуліся мужавы крокі, і Надзея заспяшалася яму насустрач. Мадалінскі, выслухаўшы жонку, устрывожыўся не менш за яе, скінуў з пляча вязанку сушняку:

—Пабягу ў Вазачы і забяру Петрыка.

Але не паспеў зрабіць і кроку, як жонка спыніла яго:

—Чакай! Чуеш, па-над канаваю нехта адтуль, здаецца, бяжыць. Мо ён?

Удваіх узіраліся ў змрок, пакуль не ўбачылі ледзь прыкметную постаць, але пазнаць, хто набліжаецца, не маглі.

Урэшце ад альшэўніка, што густа разросся паўз канавы, аддзяліўся выразны сілуэт хлопчыка.

—Гэта ён! — радасна ўскрыкнула маці і кінулася да сына. За ёю пабег і бацька.

Апынуўшыся ў абдымках маці, усхваляваны Петрык стаў расказваць:

—У Вазачах яны загадалі мне пільнаваць каня, а самі пайшлі па хатах збіраць бульбу. Я не злазіў з калёс, чакаў. А з аднаго двара высунулася бабуля і стала на мяне сварыцца: "За хурмана ў іх, нямецкі паслугач! Яны ў людзей апошнюю бульбу выграбаюць..." Я спалохаўся, кінуў лейцы і праз агароды і поплаў пабег дамоў...

—Малайчына, сыначку, што ўцёк, — задаволеная маці цалавала сына. — Бо й праўда: навошта, каб людзі нядобра гаварылі пра нас?

За вячэраю бацькі зноў хвалілі Петрыка і радаваліся, што ўсё так добра для іх скончылася. Задаволеныя, паклаліся спаць. Бацька і сын адразу заснулі, а маці не спала — не адпускала а, варушылася ў душы неакрэсленая, незразумелая трывога. Не магла сплюшчыць вачэй. За тры гады вайны прывыклі да цемры, якая штовечар і штоноч панавала ў хаце, бо святло запальваць баяліся. Ды й не было таго святла, на лучыну, як даўней, перайшлі. Ляжала гаспадыня і чакала сну. Раптам у баку Вазачоў бабахнулі два стрэлы і зноў стала нейкі час ціха. Затым пачуўся ад дарогі ляскат калёс — нехта шалёна гнаў каня да Валавіч.

Гаспадыня спачатку не надта перапалохалася — стралялі часта ноччу франтавікі-адпачыванцы, варта на чыгуначным мосце, калі раптам з лесу па ёй пальнуць партызаны і дадуць драпака. Самыя страшныя былі стрэлы, якія амаль усю зіму трашчалі на досвітку ля старога кляштара. Чуць іх было жудасна — там забівалі ні ў чым невінаватых людзей, якіх хапалі жандары нібы за сувязь з партызанамі. Ціхімі ранкамі, надаралася, да хутара даляталі не толькі стрэлы, але крыкі і галашэнні людзей, якіх перад доўгім ровам-магілай распраналі, перш чым расстраляць. Той роў не засыпалі зямлёй, а крыху закідвалі вапнай — да чарговых ахвяр. Кляштар ля мястэчка стаў страшным месцам. У тыя дні, калі Мадалінскія чулі людскія енкі, у іх літаральна ўсё валілася з рук. Надзея плакала і прасіла мужа:

—Алеська, кіньма ўсё і паедзем да сястры ў Каржакава. Там спакайней — далёка ад чыгункі і шашы. А тут з мястэчка налятаюць гэтыя з бляхамі на грудзях і хапаюць няшчасных людцаў. Не адседзімся мы тут, дачакаемся бяды.

Муж выслухоўваў жонку, угінаў галаву, урэшце выходзіў з хаты на двор, заходзіў у пуню, дзе ляжала яшчэ частка жыта ў снапах, у хлеў да кароўкі, трох авечак і схаванага ад нядобрых вачэй парсюка. "Як кінуць усё гэта і ехаць некуды, каб галадаваць?"

Вяртаўся ў хату, сяк-так супакойваў жонку, угаворваў пачакаць — мо бяда абміне іх.

Дзень, які пачынаўся, абяцаў быць пагодлівым і цёплым. Сонца — спакойнае, усмешлівае — выкацілася з-за Валавіч, павольна паплыло ўверх. Надзея завіхалася ля печы, Петрык яшчэ не прачнуўся, а гаспадар скуб сена са стога ля пуні — збіраўся карміць жывёлу. Мімаходзь зірнуў на сялібу Баравіка і ўбачыў, што да іх напрасткі цераз поле шыбуе суседава Насця. "Чаго яна да нас зрання?" — занепакоена застыў з каслаўкай сена.

—Алесь, дзе твой Петрык? — перавяла дых суседка. — Мы раніцаю выйшлі з хаты бачым: конь пад павеццю. Глянулі панарад — а там кроў. Сэрца ў нас і зайшлося — учора бачыла, што ён з імі паехаў.

—Ну і што? — збянтэжыўся Алесь. — Паехаў, а потым уцёк ад іх, спіць яшчэ. А кроў? Пэўна, у каго з вазачоўцаў нейкую жыўнасць узялі, застрэлілі. Учора позна вечарам Надзя чула стрэлы.

—Пэўна, так, дык і дзякуй Богу, — Насця, супакоеная, рушыла дахаты.

Гаспадар даў есці скаціне, але не спяшаўся ў хату, затрымаўся ля хлява.

Пачутае ад Насці ўсё ж яго ўстрывожыла, нават закарцела было збегаць у вёску і папытаць там, ці не бралі немцы ў каго свінчо ці авечку...

Мінула тры дні, у якіх таксама нічога незвычайнага не адбылося, нават пад кляштарам не было страляніны. Толькі кожны ранак з Валавіч чуліся нямецкія песні — афіцэры прымушалі франтавікоў маршыраваць і спяваць. Алесь цэлымі днямі корпаўся ў двары, гаспадыня — у хаце, а Петрык бавіў час то ля аднаго, то ля другога з бацькоў. Быць заўсёды да нечага напагатове даўно стала ў Мадалінскіх звычкаю. Алесь, зважаючы на гаворку з жонкай, усё ж на ўсялякі выпадак, наладаваў дзве невялікія торбы харчам і прыхаваў у сенцах. І цяпер, робячы тое ці іншае ў двары, ён не-не ды пазіраў на дарогу — ці не коціцца адкуль якое ліха...

Вечарам трэцяга дня ён нешта асабліва затрымаўся на вуліцы. Было цёпла і доўга светла. Вячэралі позна, з апетытам — дужа смачнаю падалася вараная бульба, палітая смажаным алеем з цыбуляю. І спаць паклаліся таксама пазней, чым заўсёды.

Алесь недзе ля апоўначы праз сон пачуў ціхі стук у шыбу. Прахапіўся, сеў у ложку, прыслухаўся. Сапраўды, нехта як шкробся па шкле. Алесь падбег да вакна і зірнуў на двор:

—Хто тут?

—Хазяйн, открывайт, — з ценю сенцаў высунулася постаць немца з карабінам за плячыма. "А божачкі, — спалатнеў Алесь, — не днём — ночу, на сонных, як на спячых зайчанят..."

Адчыніў дзверы.

—Вам б'яда, — начны госць вобмацкам праціснуўся ў хату і нешта трывожна залапатаў па-свойму, ужываючы часам нашы ды польскія словы.

Прахапіліся жонка і сын, і адразу пазналі ў прышэльцу таго, з кім Петрык тры дні назад ехаў у Вазачы. Немец настойліва нешта тлумачыў, а яны ўтраіх ніяк не маглі ўцяміць, што ён гаворыць. Урэшце Алесь усё ж датумкаў, што немец раіць ім неадкладна ўцякаць, бо яго напарнік, з якім ён збіраў бульбу, быў паранены, сёння ён апрытомнеў і паведаміў афіцэру пра Петрыка, які ўцёк з калёсаў; ён лічыць, што малы пабег да партызан.

—Значыць, да нас прыйдуць жандары? — гаспадар палахліва перапытаў у немца.

—Я, я, — заспяшаўся пацвердзіць той. — Іх, Артур Мільке, бежайт з вамі. Мільке больш не хоча ваявайт. Гітлер капут.

—А тыя гаспадары, дзе каня бралі і бульбу, — таксама павінны ўцякаць? — Алесь паказаў немцу рукою ў бок хутара Баравіка і Вазачоў.

—Я, я, — заківаў галавою Мільке. — Іх хадзіт туда, прэдупрэждайт.

Мадалінскія мітусліва, упоцемку, апрануліся. Сёе-тое з апранахі скідалі-склалі ў посцілку, наверх Алесь паклаў, прынёсшы іх з сенцаў, зладаваныя раней торбы з харчам, звязаў у хатуль і ўскінуў сабе на плечы. Надзея ніяк не магла зашпіліць на Петрыкавым кажушку гузік — немец дапамог ёй, і ўсе выйшлі. Алесь замкнуў хату і ключ паклаў у кішэню. Потым парасчыняў дзверы хлява і куратніка, каб жыўнасць магла выйсці на волю, крадком змахнуў з вачэй набеглую слязу і рушыў з двара. За ім пасунуліся ў месячную ноч немец і Надзея з сынам.

Сцішанае наваколле, асветленае высокім месяцам, адклікалася на іх кожны крок, і яны спяшаліся, каб хутчэй углыбіцца ў альховы гай і выйсці да старога лесу. Ісці было цяжка — луг яшчэ не прасох, пад нагамі хлюпала вада, але ж выбіраць дарогу не даводзілася — трэба было спяшацца.

Урэшце луг скончыўся, пад нагамі пасушэла — пачаўся прылесак. Блізіўся золак. Алесь прыцішыў хаду, азірнуўся — немец адстаў ад яго на паўсотню крокаў, ішоў стомлена, адной рукою трымаючы за пасак свой карабін, а другою падтрымліваў Надзею, якая несла на руках Петрыка.

Дапяўшы да гонкіх соснаў старога бору, уцекачы абяссілена пападалі на ігліцу. Немец, Надзея і Петрык тут жа заснулі. Алесь таксама заплюшчыў быў вочы, але сон да яго не ішоў. Непакоіла пытанне: куды ісці далей? Шукаць у бары партызан — ненадзейна, можна ўвесь дзень праблукаць і не сустрэць іх. Значыць, трэба ісці ў Каржакова да швагеркі і там вызначацца, дзе і як жыць далей. Але зноў жа: адсюль да Марысі цяжка будзе выбіцца на прамую дарогу.

—Ну, адпачылі трохі? — Алесь падняўся сам, і падняў усіх. — То пойдзем далей.

—А куды? — занепакоілася Надзея.

—У Каржакава, да Марысі. Тут блізка насып ад былой калейкі, ён і прывядзе туды.

—Даўно не бачыліся, Бог ведае, як там цяпер.

—Будзем спадзявацца, што немцаў няма.

Немец, як бы нешта зразумеўшы з іхняй гаворкі, таксама ўсхваляваўся:

—Мы не ідзёт да партызанэн?

—Найн, да яе швэстар, — Алесь паказаў рукою на жонку.

—Іх фарштэйн, — Мільке падняў з ігліцы карабін, падаў яго Алесю. — Цяпер вы — канвой, іх цяпер несёт м'яшок.

Алесь хацеў запярэчыць, але падумаў, што праўда на баку немца — калі партызаны ўбачаць яго са зброяй, то не выключана, што здаля возьмуць і пальнуць.

Насып былой калейкі знайшлі адразу. Па ім ісці было лёгка — быццам па сцежцы, хоць і даўно няходжанай. Цяпер яны крочылі вальней, не спяшаліся. У лесе было светла — на бясхмарным блакіце шчыравала па-вясноваму ўжо высокае сонца. Яно прыемна лашчыла плечы — яны кіравалі проста на захад. Алесь адчуваў сябе з карабінам досыць нязвыкла. І яму зноў прыйшло на думку немцава рашэнне. "Са зброяй не хацеў ісці — няхай, — разважаў Алесь, — але чаму ён захваляваўся, ці ідзём да партызан? Мо тут для нас якая пастка? Пэўна, дурань я, што паверыў яму адразу, мо дарэмна мы пакінулі селішча, мо нас тут чакае пагібель?" Але зірнуў на немца і супакоіўся: частаваў Надзею і Петрыка плітачкай шакаладу. "Благі чалавек гэтак рабіць не будзе", — Алесь мацней сціснуў пасак карабіна, пайшоў больш упэўнена.

Цяпер ён стаў прыкмячаць, як у промнях сонца рдзелі меддзю стромкія сосны абапал насыпу, як між імі дзе-нідзе пракідваліся лапікі вады, якую не паспела яшчэ ўсмактаць не адталая да канца зямля. Часам на сцежку вытыркваліся пухнатыя ўжо галіны вербалозу. Ды зараз усё, што нараджалася ці ажывала, спараджала ў Алесю непакой, нават страх за будучыню — сваю і сям'і.

Раптам наперадзе з ельніку выскачылі двое на конях:

—Кідай зброю! Рукі ўгору!

Алесь скінуў з пляча карабін, падняў рукі і азірнуўся назад. Жонка і немец таксама паднялі рукі. Двое маладых вершнікаў нейкі час здаля з усмешкаю на твары разглядалі затрыманых. Іх аўтаматы былі напагатове. Потым адзін, у жоўтым кажушку, пад'ехаў да Алеся і спытаў:

—Хто такія?

Алесь пачаў тлумачыць, што яны ўцякаюць ад немцаў, але яго перапынілі:

—Ад немцаў з немцам і з яго ж вінтоўкаю? Такога нам яшчэ не траплялася. Хлусіш, дзядзька.

—Давайце іх сюды, разбяромся, — загадна прагучала з ельніку.

Неўзабаве затрыманыя аказаліся на паляне ля запрэжанай парай коней брычкі. У ёй ля кулямёта сядзела трое мужчын, старэйшых за коннікаў.

—Го, Хведар, каго ты злавіў? — мужчына ў ладным чорным кажушку, падпяразаны шырокай вайсковай дзягай, на якой вісела кабура, саскочыў з вазка і падышоў да затрыманых. — Адкуль вы такія ўзяліся?

Алесь зноў пачаў тлумачыць, але яго раптам перапыніў немец — ступіў наперад і ляснуў па-вайсковаму абцасамі, далажыў:

—Артур Мільке, драй унд драйсіг!

—А што далей, фрыц? — засмяяўся той, у чорным кажушку.

—Артур Мільке, драй унд драйсіг, — зноў выпаліў немец і прыціснуў рукі да сцёгнаў.

І на чарговы запыт немец паўтараў адно і тое ж.

Мужчына з кабурой на баку падступіўся да Алеся:

—Кажы ты, куды ідзеш з гэтым дурным фрыцам?

Мадалінскі расказаў коратка, як усё было.

—Чорт ведама што і гэты пляце, — "чорны кажушок" пагалядзеў на сваіх. Хай з імі разбіраецца Васюта з камісарам. Завяжыце ім вочы, стрыножце і ў брычку.

У момант нейкімі анучамі, што пахлі збройным маслам, уцекачам завязалі вочы, спуталі ногі і, як кулі з бульбаю, укінулі ў параконку.

Ехалі з гадзіну, куляючыся ў рытвіны і падскокваючы на карчах ды карэннях. Урэшце спыніліся. Палоннікаў развязалі. Перад імі, пад сцяною густога ельніку, горбіліся замшэлыя стрэхі зямлянак, трохі воддаль, сярод соснаў і ялін, відаць былі павеці, з конямі і калёсамі. Мадалінскія і Мільке злезлі з брычкі, бязвольна азіраліся. Яны ўжо не сумняваліся, што трапілі да партызанаў. Той, у кажушку, няйначай быў узводным. Цяпер ён пабег у адну з зямлянак і доўга адтуль не вяртаўся. За гэты час на паляну няведама адкуль высыпала нямала ўзброеных людзей, апранутых хто ў што — у сялянскія кажушкі, вайсковыя бушлаты, шынялі і нават у кароценькія жаночыя з плюшу паліто. Усе з цікавасцю разглядалі немца і Мадалінскіх. Некаторыя, бліжэйшыя, пасміхаліся з іх, найперш з немца.

Нарэшце з зямлянкі выйшлі ўзводны і высокі хударлявы мужчына ў накінутым на плечы вайсковым шынялі, падбітым чорнаю аўчынаю. Ён уважліва агледзеў, з ног да галавы, кожнага палоннага, нешта ціха сказаў узводнаму і павярнуўся ісці. Але тут да яго падаўся немец, шчоўкнуў абцасамі і адрапартаваў:

—Артур Мільке! Драй унд драйсіг!

Васюта, камандзір партызанскага атрада (а гэта быў акурат ён) не зрэагаваў на немца, аднак жа голасна паўтарыў узводнаму тое, што раней гаварыў ціха:

—Немца — да камісара Казаніна, а цывільных пакуль пад замок.

—Таварыш камандзір, які замок? Мы ж... — усхвалявана пачаў Алесь.

Васюта не стаў яго слухаць, кінуў абыякава:

—З вамі пазней разбяромся.

Немца двое канваіраў пагналі кудысьці за павеці, а Мадалінскіх упіхнулі ў адну з зямлянак і зачынілі за імі дзверы. Там было цёмна і сыра, пахла гніллю. Алесь стомлена апусціўся на накіданыя долу лапкі, побач селі жонка з сынам. Няўтульнасць, цемень узмацнялі трывогу, якая пачалася яшчэ там, на палянцы, калі ім завязалі вочы. Няйначай адбываецца нешта нядобрае.

Першай азвалася жонка:

—Алеська, што яны ад нас хочуць?

—У нечым падазраюць, бо ж прыйшлі ў лес з немцам. А можа, у іх і завядзёнка такая — падазраваць...

—Мама, есці хочацца, — перапыніў іх гаворку Петрык.

—Пацярпі, сыначку, от нас выпусцяць, дык мы тады знойдзем свой клунак на тым возе і паямо.

Алесь жа не стрымаўся, амаль вобмацкам знайшоў дзверы, штурхнуў іх. Яны, на дзіва, адчыніліся. Цёплае паветра і сонечнае святло ўварваліся ў зямлянку.

*(Працяг на стар. 14)*

## З роду Пранішнікавых



— Міхасю Пранішнікаву пашанцавала. Яго выстава адкрылася ў сонечны дзень, а таму карціны глядзяцца больш прасветлена. Піша ён "пад старых майстроў". Атрымліваецца часам крыху змрачнавата, хаця прагрэс у яго творчасці — відавочны. І галоўнае — ён добра адчувае маштабы палатна. Нават многія эцюды маюць характар скончанай карціны, — зазначыў заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікалай Казакевіч.

Імкненне да майстэрства "старых майстроў" у Міхася Пранішнікава, па ўсёй верагоднасці, падсвядомае, нават геннае. Бо бацька яго — Герман Пранішнікаў — цудоўны мастак, імя якога з гонарам носіць Светлагорская карцінная галерэя "Традыцыя", таксама спавядаў законы класічнага, рэалістычнага жывапісу. З творчай спадчынай яго, на вялікі жаль, яшчэ вельмі мала каму давялося пазнаёміцца. А яна вартая таго, бо мастак, жыццё якога абарвалася трагічна, ставіў перад сабой вельмі складаныя задачы.

Давялося чуць ад Германа Міхайлавіча, што ён мае дачыненне да слыннага мастакоўскага роду Пранішнікавых. Памятаю, цытаваў мне выпіску з нейкай старажытнай граматы: "В лето 7135 борзописец и парсунных дел умеха Ивашка Пранишнин с чадами жалован посадом на Яузе". Гэта ў Стараканюшанным завулку ў Маскве, насупраць дома Мешчараковых, удакладняў Г. Пранішнікаў. Безумоўна, самы вядомы мастак з роду Пранішнікавых — Іларыён Міхайлавіч, сярод вучняў якога — Бялыніцкі-Біруля, Іваноў, Каровін.

Зрэшты, ні Герман Міхайлавіч, ні тым больш яго сын Міхась, ніколі не спасылаліся на сваіх вядомых продкаў, лічачы, што пра мастака і за мастака павінны, перш за ўсё, гаварыць яго творы.

Больш за сорак карцін і эцюдаў прадставіў на сваю першую персанальную выставу Міхась Пранішнікаў. Адкрылася яна ў выставачнай зале Гомельскага аддзялення Беларускага саюза мастакоў. Жыве Міхась Пранішнікаў у Светлагорску, працуе мастаком у вытворчым аб'яднанні "Хімвалакно" і ў мясцовай карціннай галерэі. Некаторыя яго карціны ўжо знаходзілі добры водгук нашых слынных мастакоў.

Міхась Пранішнікаў пазнавальны не толькі каларытам, але і настраёвасцю сваіх твораў. Пры ўсёй лагоднай замілаванасці роднымі краявідамі ("Старая прыстань", "Набярэжная ў Светлагорску", "Крыніца", "Сунічная паляна"), ён бывае псіхалагічна вельмі дакладным у настраёвых пейзажах ("Задажджыла", "Пахмурны дзень", "Вечар"), а часам — і пераканаўча ўзрушаным, здольным перадаць магутную неўтаймаванасць прыроды. Асабліва яскрава гэтая здольнасць праявілася ў карціне, якая так і называецца — "Стыхія". Пакручастыя аблокі нібыта перадалі сваю ўзрушаную сілу такой жа ўзвышанай над берагамі хвалістай вадзе. А побач з гэтай стыхіяй зямлі і неба — прыцішаная, пакорная лёсу вёсачка...

Нездарма старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў Анатоль Отчык і заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Мікалай Казакевіч назвалі Міхася Пранішнікава таленавітым і перспектыўным мастаком.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: М. Пранішнікаў*

ФЕСТЫВАЛІ

# Уславіць імя Божае...

***У Гайнаўцы, на Беласточчыне, прайшоў XX Міжнародны фестываль царкоўнай (чытай: праваслаўнай) музыкі.***

Запрасіў мяне нязменны дырэктар і натхняльнік гэтай імпрэзы шаноўны спадар Мікалай Бушка, за што выказваю яму шчырую ўдзячнасць. На фестываль я кіраваўся ўпершыню, хаця пра яго ўжо шмат чуў і чытаў. Ехаў аўтобусам разам з хорам "Раніца", пра які я, як гэта ні дзіўна, толькі напярэдадні вандроўкі ад самога Міколы Бушкі дазнаўся. З мастацкім кіраўніком калектыву Віктарам Масленікавым мы неяк адразу паразумеліся, што ўсцешыла, бо не заўсёды ж людзі знаходзяць сцежку адно да аднаго...



Gazeta
Festiwalowa

Gazeta Międzynarodowego Festiwalu Muzyki Cerkiewnej w Hajnówce

Тое, што фестываль быў юбілейны, надавала яму асаблівую ўрачыстасць. Праходзіў ён пад патранатам самога Прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага, што мяне, скажу шчыра, прыемна здзівіла, нават уразіла: суседняя з намі краіна прызнаецца традыцыйна каталіцкай. Праваслаўе там замацавалася пераважна на памежнай з намі Беласточчыне, адвеку беларускай зямлі, якую, аднак, бацька ўсіх народаў Сталін узяў, як акраец ад бохана, дый падараваў сваім польскім пабрацімам-камуністам, спадзеючыся такім чынам падвысіць аўтарытэт новай сацыялістычнай улады. Праваслаўе ацалела таксама, але маленькімі выспачкамі сярод каталіцкага абшару, там, дзе аселі перасяленцы крыху з Беларусі, а найбольш з Украіны.

Дзеля аб'ектыўнасці трэба сказаць, што праваслаўная царква і ў міжваенны перыяд, і ў часы Польскай Народнай Рэспублікі, і зусім нядаўна, пры прэзідэнце Леху Валенсе пачувалася ў дзяржаве зусім канфесійна не раўнапраўна. Пра тое найперш сведчаць спаленыя цэрквы, адну з якіх, на святой гары Грабарцы, вернікі на папялішчы адбудоўвалі аж некалькі разоў. Дык хіба нельга ўсцешыцца і парадавацца, што на змену дзікунству прыходзіць сапраўдная хрысціянская салідарнасць, падтрымка і ўзаемапавага братоў па веры, у чым выяўляецца дэмакратызм ды інтэлігентнасць цяперашняй дзяржаўнай улады і спрыяльны духоўна-маральны ўплыў на сітуацыю ў Польшчы вышэйшай каталіцкай улады на чале з Папай Рымскім Янам Паўлам II, палякам паводле нараджэння і грамадзянства.

Пра фестываль у Гайнаўцы ідзе розгалас па ўсім свеце, прынамсі, там, дзе жыве праваслаўная вера. Абсягі ж яе ўплыву значныя. Не кажучы пра кантыненты, амаль у кожнай краіне ёсць яе паслядоўнікі, а значыць — і цэрквы. І на гэтым велізарным абшары паядналых у веры яркім нязгасным агеньчыкам высвечвае Гайнаўка, сам па сабе невялікі і мала чым прыкметны гарадок на самым узмежку Белавежскай пушчы, таксама, як вядома, падзеленай паміж Беларуссю і Польшчай. Узвышэнне і славу ў хрысціянскім свеце мястэчка набыло дзякуючы фестывалю, які з'явіўся найперш дзякуючы ўласнай задуме, нястомнай энергіі і настойлівасці ўсё таго ж Міколы Бушкі.

Падчас свята апошнімі гадамі рэгулярна выдаецца "Фестывальная газета".

Да сёлетняга юбілею арганізатары выдалі і ўражлівы, багата ілюстраваны каляровымі здымкамі, буклет, дзе змешчана і хроніка станаўлення фестывалю. Напачатку, зразумела, ён не меў цяперашняга размаху і досыць сціпла называўся "Дні царкоўнай музыкі", якія распачаліся ў 1982 годзе і штогод ладзіліся да 87-га, а ў наступным годзе падвысілі свой статус да Агульнапольскіх дзён царкоўнай музыкі. Пачалася часіна далучэння да праваслаўнага фэсту ў Гайнаўцы ўсё новых і новых спеўных калектываў з усяго свету, што і дазволіла ў 1991 годзе пераназваць "Дні" ў Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі.

Праніклівы чытач, мабыць, заўважыў пэўную адпаведнасць у датах святкавання і сёлетняга, і дзесяцігадовай даўнасці юбілеяў, быццам на год прыспешаных. Аказваецца, ідэя запачаткаваць Дні праваслаўнай музыкі ў Гайнаўцы ўзнікла ў М. Бушкі яшчэ да таго, як ён заступіў на працу дырэктарам гарадскога Дома культуры ў 1981 годзе. І калі ўжо мелася ажыццявіцца задума, усё раптоўна скасавалася ў выніку ўведзенага ў Польшчы генералам Ярузельскім ваеннага становішча. Было не да ўзвышанага духоўнага спеву! Аднак "адмена" імпрэзы аказалася часовай. І ў наступным, 1982 годзе, у Гайнаўцы загучалі царкоўныя спевы!

За час існавання фэсту тут выступілі 405 мастацкіх калектываў з 27 краін, збіраліся дзесяткі тысяч слухачоў, прычым не толькі з Беласточчыны і ўсёй Польшчы, але і з краёў далёкіх, нават заморскіх. Напачатку ў імпрэзе бралі ўдзел царкоўныя хоры з праваслаўных прыходаў Беласточчыны, а таксама з іншых мясцін Польшчы — Любліна, Познані, Кракава, Лодзі... Потым далучыліся пасланцы іншых краін, а склад удзельнікаў пашыраўся за кошт прафесійных і самадзейных выканаўчых калектываў. Як сведчыць хроніка, першым ганараваным госцем быў хор царкоўнай музыкі з Фінляндыі. У 87-м узнагароджаныя былі мужчынскі хор з Балгарыі (Сафія), хор "Віват" з Масквы, змяшаны хор Ленінградскай духоўнай Акадэміі і змяшаны хор праваслаўнага епіскапата Фінляндыі. Толькі ў наступным годзе сярод лаўрэатаў знаходзім змяшаны камерны хор педагагічнай вучэльні з Гродна...

"Спазненне" Беларусі на сустрэчу са сваімі духоўнымі і крэўнымі пабрацімамі на памежнай Беласточчыне цалкам зразумелае, калі ўспомніць ненармальныя варункі існавання хрысціянскай веры ў камуністычна-атэістычным Савецкім Саюзе, дзе, як і ў стаўленні да роднай мовы, наша рэспубліка (БССР) была "впереди планеты всей"...

У выніку так званай гарбачоўскай перабудовы некалі магутная імперыя пачала трашчаць, рушыцца і ўрэшце сама сабой, без вайны і рэвалюцыі, нібы воляю вышэйшай сілы, распалася на незалежныя дзяржавы, у якіх развілося нацыянальна-духоўнае адраджэнне, што было ўласціва, зразумела, і Беларусі.

Дык вось, ужо на Міжнародным фестывалі ў Гайнаўцы ад нашай краіны ўдзельнічаў і здабываў узнагароду не абы-які, а адзін з самых вядомых і прызнаных — Акадэмічны хор радыё і тэлебачання Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам прафесара Віктара Роўды, які атрымаў тут і асабістую ўзнагароду за дырыжыраванне. Дыпломам быў таксама адзначаны і хор Мінскай духоўнай семінарыі пры адроджаным манастыры ў Жыровічах. У наступныя гады ўдзел калектываў з Беларусі робіцца сталым, як і іх ганараванне. Сярод адзначаных — Мінскі абласны хор "Sonorus", "Раніца" з Мінска, камерны хор гарадскога Дома культуры з Магілёва, хор з Гомеля і інш. Вельмі ўдала выступаюць украінскія госці. Зразумела, што найбольш удзельнікаў і, адпаведна, лаўрэатаў і дыпламантаў было з традыцыйна праваслаўных краін — Расіі, Грэцыі, Балгарыі, Сербіі, Македоніі, Грузіі, Арменіі, Румыніі, Малдовы. Але нярэдкімі былі і поспехі пасланцаў з краін Амерыкі, Азіі, Афрыкі, не кажучы пра еўрапейскае замежжа.

Адкрыццё сёлетняга фестывалю адбылося ў саборы Святой Тройцы ўрачыстым малебнам, які праводзіў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава. З высокіх духоўных асоб прысутнічалі таксама епіскап гайнаўскі Мірон і бельскі Грыгорый. З прывітальным словам ад урада РП выступіла Крыстына Лукашык, ваявода Падляшскі. Ад прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага прысутных вітаў яго дарадца Ежы Высакіньскі. Прысутнічалі прэм'ер Польшы Уладзімеж Цімашэвіч, паслы Беларусі і Югаславіі — Мікалай Крэчка і Мілард Шчэпанавіч...

Праграмы фэсту шырока транслiраваліся як па польскім радыё і тэлебачанні, так і па беларускіх праграмах Беластока і Варшавы. А на завяршэнне ўдзельнікі маглі набыць кампакт-дыскі з запісам выступленняў лаўрэатаў фестывалю. Ці ж не зайздросная аператыўнасць!

Конкурс апошнім часам праводзіцца ў трох намінацыях: парафіяльныя хоры, самадзейныя і прафесійныя калектывы. Пераможцаў вызначала аўтарытэтнае міжнароднае журы на чале з вельмі папулярным на сённяшні дзень польскім кампазітарам у галіне духоўнай музыкі, прафесарам Рамуальдам Твардоўскім, творы якога былі ў рэпертуары амаль ці не ўсіх удзельнікаў фестывалю.

# Было слова, былі кветкі...

На другі дзень пасля XIII з'езда пісьменнікаў Васіль Ткачоў адразу паехаў да сваіх землякоў на Рагачоўшчыну — спярша ў вёску Гута, дзе пабываў у хаце, у якой нарадзіўся, а сёння жыве яго дзядзька, потым на цэнтральнай сядзібе калгаса, у Хатоўні. Там у мясцовым СДК адбыўся творчы вечар пісьменніка-земляка. Трэба адзначыць, што па дарозе зазірнуў ён і ў Журавічы, меў размову са старшынёй мясцовага сельскага Савета Валянцінай Сідарэнкай, з настаўнікамі і вучнямі мясцовай школы, а потым яны ўсе разам паклалі кветкі да помніка славутага драматурга Андрэя Макаёнка. І што прыемна: амаль усе дрэўцы, пасаджаныя каля помніка ўвосень, прыжыліся!

Творчасць Васіля Ткачова ў Хатоўні добра ведаюць. Кнігі пісьменніка-земляка ёсць не толькі ў бібліятэцы, але і ў асабістым карыстанні — прычым, з аўтографамі аўтара. Таму адразу ж наладзіўся кантакт з залай. Васіль чытаў гумарыстычныя творы, сыпаў, як заўсёды, жартамі, адказваў на пытанні землякоў.

У творчым вечары Васіля Ткачова прынялі ўдзел рэжысёр народнага драматычнага тэатра раённага ДК Аляксей Сількевіч, які прачытаў некалькі "вясёлых сітуацый" пісьменніка, а дырэктар Доўскага СДК Святлана Акінчыц і мастацкі кіраўнік Хатаўнянскага СДК Сяргей Філіпчанка выконвалі лірычныя песні.

Пра жыццёвы і творчы шлях Васіля Ткачова, аўтара шматлікіх кніг прозы для дзяцей і дарослых, драматургічных твораў апавядала вядучая вечарыны — загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу раённай бібліятэчнай сістэмы Зоя Мартынкова.

Землякі засыпалі пісьменніка кветкамі. А ён падзякаваў усім, хто прыйшоў у той вечар на сустрэчу з ім, а таксама дырэктару раённай цэнтральнай бібліятэкі Клаўдзіі Савельевай і загадчыцы Хатаўнянскай бібліятэкі Алене Кулаковай, якія арганізавалі гэтую вечарыну.

**Мікола ЛІТВІНАЎ**
Гомель

# Каханне па-амерыканску

Ёсць пачуцці, якія аб'ядноўваюць людзей. Адно з іх — каханне. Для яго няма ні моўных, ні дзяржаўных меж... Новыя кнігі амерыканскага паэта Сэма Окленда, прадстаўленыя ў гасцёўні Галубка, менавіта аб гэтым пачуцці. Зборнікі вершаў "Паўночнае сонца" і "Усмешка за кубачкам гарбаты" — незвычайныя. Больш чым дваццаць год няпростага кахання злучылі амерыканскага паэта і савецкую балерыну. Гэтыя гады ўвасобіліся ў пяцідзесяці вершах, кожны з якіх утрымлівае не больш 25 слоў. Прыкладна адно слова на кожны год гэтай рамантычнай гісторыі. Форма твораў, па словах самога Окленда, была навеяна невялічкім вершам, высечаным на сцяне аднаго са старажытных японскіх палацаў. У спалучэнні з канонамі сучаснай амерыканскай паэзіі атрымаліся вольныя, раскаваныя, вытанчаныя і адначасова экзатычныя радкі.

Сэм Окленд — амерыканец нарвежскага паходжання. Большую частку жыцця ён праводзіць у вандроўках па свеце. Асаблівае месца ў геаграфіі яго падарожжаў займае Расія і Беларусь. У вершах вельмі часта ўзгадваюцца месцы, знаёмыя кожнаму мінчуку: праспект Скарыны, Траецкая гара, станцыя Няміга...

Як гаворыць Окленд, аднойчы ён закахаўся ў Беларусь і людзей, якія тут жывуць. А пачалося ўсё з балета. Паэт пабачыў тую, якой прысвяціў вершы, — яна "захавала свой апошні танец" для яго.

Кніга "Паўночнае сонца" пісалася на працягу трох год, а карэктуру аўтар рабіў у Новасібірску. Прэзентаваная кніга перакладзена з англійскай Т. Шпартавай.

**Людміла ГУРМАН**




# Паэт Мікола Тонкавіч

*Больш паўвека таму, у другой палавіне 40-х, шчасліва ўдзячны "Бярозцы" за публікацыі маіх вершаў, я адкрыў на старонках гэтага выдання яшчэ аднаго паэта-пачаткоўца з маёй Лагойшчыны. Нават не проста земляка, але і блізкага суседа — да ягоных Дашак (а гэта купалаўскія мясціны) ад маёй Слабады вёрст трынаццаць. Гэтым паэтам быў, як аказалася, мой жа равеснік (месяцы на тры маладзейшы) і таксама вучань сямігодкі Мікола Тонкавіч. Вядома, як маладыя аўтары пільна (раўніва пільна) сочаць за выявамі ў друку сваіх літаратурных аднагодкаў. З такой увагай чытаў і я ў "Бярозцы" вершы Міколы Тонкавіча. І аднойчы, помню, усклікнуў: ого, халерачка, дык гэта ж здорава!*

**Шатром разложыстым на ўзлессі**
**Стаіць зялёная сасна.**
**Ці сто гадоў стаіць ці дзвесце —**
**Не скажа гэтага яна.**

*Мне ўбачылася ў гэтых радках не толькі адзнака прыроднага таленту, але і зайздросная вывучка ў школе паэтычнай класікі, у прыватнасці — моцнае валоданне вершам. У 1948 годзе выйшла кніга ўспамінаў беларускіх дзяцей аб вайне "Ніколі не забудзем". Складальнік П. Рунец абяцаў памясціць у ёй і мой верш "Бургамістр", але я не змог паведаміць неабходныя для дакументальнай кнігі дакладныя звесткі пра хлапцоў, якія пакаралі калабаранта, і мяне чакала расчараванне. А Міколу пашанцавала: яго верш "Падрыўнік" — таксама складна і ўпэўнена зроблены — быў у кнізе надрукаваны.*

*На жаль, надзейны пачатак творчай біяграфіі земляка не знайшоў у наступныя гады працягу. Прычынай была цяжкая хвароба, якая надоўга прыкавала яго да ложка, ды і надалей рэзка абмяжавала магчымасці нармальна жыць і працаваць, але чалавек вялікай сілы волі і мужнасці, М. Тонкавіч здолеў і ў надзвычайных умовах не зламацца і не скласці рукі, ён набыў адукацыю — закончыў завочна бібліятэчны тэхнікум, затым інстытут, доўгія дзесяцігоддзі працаваў на радзіме бібліятэкарам. Ужо ў сталым веку зноў вярнуўся да таго, з чаго пачынаў: да паэзіі, да калдавання над радком і словам. І калі б не прыродная звышсціпласць — даўно мог бы заняць сваё, хай сабе і не кідкае месца ў сучаснай беларускай паэзіі. Але характар ёсць характар. "Ай, сказаў сам сабе, вось друкуе мяне лагойская раёнка, — і добра, і досыць".*

*Ужо гадоў дваццаць пяць як Мікалай Мікалаевіч жыве ў Мінску. Чым займаецца, што робіць? Галоўным чынам чытае — кнігі, часопісы, газеты. Беларускія, вядома. Не ведаю, ці ёсць у Беларусі яшчэ такі ўважлівы (і строгі!) чытач сучаснай нашай літаратуры, як Тонкавіч. А яшчэ — піша вершы, і шмат. Друкуецца пераважна ў газеце самых абяздоленых грамадзян рэспублікі "Наша доля" і ў сваёй роднай раёнцы, якой дагэтуль не здрадзіў. Мог бы выдаць і зборнік, які, я ўпэўнены, быў бы прыхільна прыняты многімі чытачамі, але для гэтага трэба мець грошы або грашавітага дзядзьку. Грошай у пенсіянера, інваліда першай групы, няма, а багаты дзядзька не знаходзіцца.*

*Наша доля! — відаць, усё, што можна сказаць на гэта.*

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

Мікола ТОНКАВІЧ

## Сасна

*Шатром зялёным на прыволлі*
*Да неба высіцца сасна.*
*Ці сто гадоў ёй, а ці болей —*
*Не скажа гэтага яна.*

*Бо пэўна ж і сама забыла*
*Маленства радасныя дні,*
*Калі нязведаная сіла*
*Штурхала к светлай вышыні.*

*Калі вясновым ясным раннем*
*Пад неабдымнай сінявой*
*Упершыню прыйшло жаданне*
*Крануцца неба галавой.*

*Гады, нібы марскія хвалі,*
*Плылі, плылі сабе ў нябыт,*
*А сілы сокаў падымалі*
*Яе ўсё вышай пад блакіт.*

*І вось цяпер па-над абшарам*
*Стаіць вышэйшая за ўсіх,*
*Кранае пышнай шапкай хмары,*
*Калі праносіць вецер іх.*

*Калі ж мо ў буру давядзецца*
*Сасне той галаву злажыць, —*
*Яе патомства застанецца,*
*Бор векавечна будзе жыць.*

*Бо свой закон прырода мае:*
*Жыццё не спыніш ні на міг —*
*Старое шлях свой саступае,*
*Каб быў прастор для маладых.*

•

*Святары, вучоныя, паэты*
*Пра душу гавораць часта нам.*
*Але чым жыве яна — пра гэта*
*З іх наўрад ці ведае і сам.*

*Бо душа — для ўсіх нас таямніца,*
*Як нябёс загадкавая сінь,*
*Бо яшчэ ніхто не змог прабіцца*
*Да яе нязведаных глыбінь.*

•

*Зямлю ўшанавала зіма-завітуха,*
*У коўдру спавіўшы яе.*
*Крок снежны парыпвае*
*холадам суха,*
*І полаз пра нешта пяе.*
*Па дрэвах мароз лёгкім*
*пухам паслаўся,*
*Пакінуў свой след на акне...*
*А я за радкі і за рыфмы схаваўся —*
*Тут цёпла і радасна мне.*

•

*Бывае, хлыне ў сэрца непагода —*
*Ніяк работа ў рукі не ідзе...*
*Дзень гэтакі здаецца цэлым годам,*
*Пражытым без карысці*
*для людзей.*
*Калі ж багаты дзённы*
*мой набытак*
*Душу напоўніць шчасцем*
*без мяжы, —*
*Мне уяўляецца, што я, нібыта,*
*Не дзень, а год дзеля*
*людзей пражыў.*

•

*Ты сваю украінскую шчырую*
*Заспявай і мой сум прагані,*
*Зноў пакліч маладосць*
*нашу з выраю,*
*Нагадай нашы лепшыя дні.*

*Мо трывога, як ёсць,*
*утаймуецца*
*Ад напеву са светлай журбой*
*І шчаслівае зноў мне пачуецца:*
*"Мой каханы,*
*я толькі з табой!"*

## Наша мова

*Слова да слова,*
*як краска да краскі —*
*Тчэцца дзівосны узор:*
*Тут вам і песні,*
*тут вам і казкі —*
*Думам народным прастор.*

*Тут і Купалы напеў шматпакутны,*
*Шчыры Максімаў санет...*
*Толькі пад сілу мове магутнай*
*Адлюстраваць цэлы свет:*

*Водар бароў, прыгажосць*
*сенажацей,*
*Долю тваю і маю...*
*Родная мова, як родная маці,*
*Усіх нас яднае ў сям'ю.*

## Успамін

СПРОБА САНЕТА

*Сустрэча выпадковаю была,*
*Ды раптам сталася жаданай, —*
*Такой жаданаю,*
*хоць нечаканай,*
*Душу наскрозь пяшчотай праняла.*

*Цяпло запрацаваных шчырых рук*
*Сагрэла грудзі мне гаючай хваляй,*
*Калі яны ласкава абнімалі,*
*Каб сцішыць боль*
*маіх сардэчных мук.*

*Забыўся я тады на цемру ночы,*
*Бо побач ярка ззялі мілай вочы,*
*Нібы казалі: вось наш зорны час!*

*Запомніліся светлыя хвіліны.*
*Твой ціхі шэпт: "Ты мой...*
*Навек адзіны..."*
*Каханне шчасцем ахінала нас.*

•

*Хтось не бачыць сэнсу ў жыцці:*
*Для чаго радзіўся? Каб памерці?*
*Дык ці варта ў гэты свет ісці,*
*Дзе не размінуцца нам са смерцю?*

*Што ж, выснова ў кожнага свая.*
*Ды такая — для мяне чужая.*
*З ёй ніяк не пагаджуся я —*
*Іншую аб тым развагу маю.*

*Быць? Не быць? —*
*залежыць не ад нас.*
*Наш прыход — прыроды таямніца.*
*Свой патрэбна "аддзяжурыць" час,*
*Калі лёс спатоліў нарадзіцца.*

*І прайсці свой шлях не абы-як,*
*Не якімсьці перакаці-полем,*
*А такі ў жыцці пакінуць знак,*
*Каб пад старасць*
*сам быў задаволен,*

*Што яно не пушчана на злом —*
*Здзейснены тры ісціны святыя:*
*Вырас сын, пабудаваны дом,*
*Сад разросся кронамі густымі.*

## Дзякуй, паэзія

*Ты, Паэзія, шчырая сведка,*
*Як пад грукат ліхіх навальніц*
*Малаграматным хворым*
*падлеткам*
*Да тваіх я памкнуўся крыніц.*

*Так хацеў наталіцца уволю*
*З невычэрпнай тваёй глыбіні,*
*Каб пазбыцца пакуты і болю,*
*Каб прыклікаць шчаслівыя дні.*

*Мяне вабілі звонкія словы,*
*Спрасаваныя ў строфах тугіх,*
*А пявучая родная мова*
*Мяккай музыкай цешыла слых.*

*Рытмы з рыфмамі, ямбы, харэі*
*Днём і ноччу гучалі ўвушшу,*
*А затым незаўважана неяк*
*У палон захапілі душу.*

*Так з'явіўся парыў самы першы,*
*Каб сказаць нешта ў рыфму сваё,*
*Далучыць мае кропелькі-вершы*
*Да магутнае плыні тваёй.*

*Ведаў я: не бурліць ім патокам,*
*Ручаінкаю нават не плыць.*
*Ды ахоплены страсцю глыбокай,*
*Штосьці ўсё ж*
*я стараўся "тварыць".*

*Мае вершы век мелі кароткі,*
*Не імкнуўся я іх друкаваць:*
*Разумеў, што мае "самаробкі"*
*Сапсуюць тваю*
*чыстую гладзь.*

*Я й цяпер не лічу і не веру,*
*Што нібыта я нейкі паэт.*
*Проста часам карціць на паперы*
*Знітаваць думкі ў*
*строфы як след.*

*Дый натхненне душу саграва,*
*Поўніць мілымі гукамі слых...*
*А яшчэ ж з асалодай чытаю*
*І паэмы і вершы другіх!*

*Дык жа дзякуй, Паэзія, дзякуй,*
*Што са мной праз жыццё*
*ты прайшла*
*Ах, якім бы я быў небаракам*
*Без твайго залатога святла!*

# Часы велічы і славы

***З лаўрэатам прэміі "За духоўнае Адраджэнне" Аленай ЯСКЕВІЧ гутарыць пісьменнік Уладзімір ГЛУШАКОЎ.***

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ: Колькі гадоў пісалася кніга "Падзвіжнікі і іх святыні"?**

**АленаЯСКЕВІЧ:** Пятнаццаць гадоў прайшло ад задумы да здзяйснення. Пяць гадоў доўжыўся непасрэдна творчы працэс. Два апошнія гады я толькі і жыла працай над кнігай "Падзвіжнікі і іх святыні".

**— Ваша кніга прысвечана гісторыі духоўнай культуры Беларусі, не толькі асветнікам, знаным кніжнікам, але і звыш 500 айчынным цудадзейным іконам, яўленым для падтрымкі этнасу на няпростых скрыжаваннях гісторыі. Менавіта ў той час быў закладзены велічны архетыпны нацыянальны падмурак, да вытокаў якога мы звяртаемся і будзем звяртацца ва ўсе часы і эпохі. У якія часы сягаюць карані "залатога веку" айчыннай культуры?**

— Менавіта "залаты век" засваення беларускім этнасам багатых здабыткаў хрысціянскай культуры ў часы Рагнеды-Анастасіі, Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Лаўрэнція Лаўрышаўскага, Аўраамія і Мяркурыя Смаленскіх і інш. сталіся фундаментам росквіту старабеларускай мовы, занатаваным у старабеларускіх лексіконах і граматыках, дзелавога пісьменства, кніжнасці духоўнай, а пазней і свецкай творчасці, шырокавядомай не толькі сярод суседзяў, але і ва ўсёй Еўропе.

Для большасці славянскіх культур першапачаткам, "залатым векам" была эпоха прыняцця хрысціянства, часы ранняй "вогненнай любові", калі этнасы засвойвалі сістэму ўзвышаных агульначалавечых гуманістычных каштоўнасцей, а душы вернікаў услед за Збаўцаю Хрыстом праходзілі ўвесь Яго зямны шлях цудаў і велічы, сураспіналіся з Выратавальнікам на крыжы і ўваскрасалі, асветленыя Божай благадаццю-любоўю. Нездарма ў гэтыя часы быў яўлены сонм мучанікаў, якіх не спыняў пераслед хрысціянства, жорсткія пакуты. Надыходзіла эпоха духоўнасці і мудрасці. Быў пакладзены пачатак якасна новай гісторыі чалавецтва, калі адносіны людзей засноўваліся на ўзаемаразуменні і павазе, міласэрнасці і высакародстве, самаахвярнасці і веры, любові і братэрстве, бо перад Творцаю ўсе роўныя.

Да ліку падзвіжнікаў спачатку адносілі апосталаў, якія прысвяцілі сваё жыццё толькі служэнню пропаведзі Святога Евангелля, а ў прыватным жыцці захоўвалі цноту і аскезу. Пазней вызначэнне падзвіжнікаў было пашырана не толькі на святых: прарокаў, патрыярхаў, праайцоў, свяціцеляў, мучанікаў, выспаведнікаў, ацаляльнікаў, бяссрэбранікаў, цудатворцаў і іншых дабрапамысных праведнікаў, але і самаахвярных асветнікаў люду паспалітага. Да ліку падзвіжнікаў айчыннай асветы і культуры далучыліся і старабеларускія кніжнікі "залатога веку" айчыннага пісьменства, беларускага ўплыву на суседнія культуры, якія самаахвярна і рупліва працавалі на ніве роднага слова, абуджалі ў людзе паспалітым высокія духоўныя парыванні, а так як пісалі яны ў эпоху Сярэднявечча, то сярод ключавых вобразаў іх твораў былі іпастасі Святой Троіцы, Прасвятая Багародзіца, ангельскія чыны, святыя.

Дзейснымі дапаможнікамі на гэтым "горнім" шляху да зямнога чалавека былі іконы, сімвалізм якіх служыў мэце ўзвышэння чалавека да духоўных існасцей, дапамагаў "рэальна явіць", паводле славутага грэчаскага пісьменніка, першага афінскага епіскапа Дзіянісія Арэапагіта, Сусвет звышбыцця на ўзроўні зямнога жыцця.

"Залаты век" ВКЛ — гэта высокая культура айчыннай кніжнасці, мажлівасць выхаду нашага пісьменства на сусветную арэну. Шэсць пакаленняў ранніх айчынных граматык, сярод якіх граматыка Івана Ужэвіча на лаціне, старажытныя лексіконы, славутая Астрожская Біблія, за якую будзіцель Йозеф Добраўскі аддаваў палову бібліятэкі, айчынныя трактаты па рыторыцы і гамілііі, славутая і шырокавядомая ва ўсім свеце багатая марыялагічная і хрысталагічная культура... Варта адзначыць, што на глебе старабеларускай мовы сфарміраваліся суседнія мовы: старапольская, старалітоўская, стараруская (дарэчы, старабеларуская традыцыя складае падмурак сучаснай расійскай, рускай літаратурнай мовы), з яе папаўнялі свае лексічныя багацці старарумынская і старавенгерская мовы, як і мовы лучнасці чэхаў і славакаў. Спецыфіка "залатога веку" старабеларускага пісьменства і ў тым, што менавіта ў гэты час плённых міжкультурных кантактаў Заходняя Еўропа пазнаёмілася з многімі помнікамі духоўнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, таму вельмі часта ў Еўропе ў той час можна было сустрэць кнігу, на якой было пазначана: пераклад з "беларасійскага языка".

Пашырэнне міжнароднага аўтарытэту старабеларускай мовы, цесныя сямейна-генетычныя сувязі з этнічна роднаснымі землямі былі абумоўлены ўзмацненнем старраславянскага пачатку ў беларускай мове, у чым прасочваецца асаблівая гістарычная спадчыннасць, узросшая цікавасць да рытарычнай культуры былой агульналітаратурнай мовы славян.

Царкоўнаславянская мова, асноўны носьбіт і захавальнік кірыла-мяфодзіеўскіх традыцый праз прыняцце і пашырэнне хрысціянства, выпраўляла норавы, удасканальвала маральныя якасці старабеларускага этнасу, далучала яго да сістэмы агульначалавечых каштоўнасцей, свету еўрапейскай візантыйскай культуры, што атрымала найменне, назву І паўднёваславянскага ўплыву, знаменавала сабой, па сутнасці, першую хвалю нацыянальнага Адраджэння.

**— Мы неяк прызвычаіліся гаварыць пра еўрапейскі Рэнесанс, але існуе надзённая патрэба ў спасціжэнні генезісу Адраджэння славяншчыны. Якое месца Полацкага, Турава-Пінскага, Смаленскага княстваў, ВКЛ у лучнасці славянскіх народаў?**

— Безумоўна, менавіта біблейскі пераклад стаўся правадніком І паўднёваславянскага ўплыву на землі Кіеўскага, Полацкага, Турава-Пінскага і Смаленскага княстваў. Варта згадаць святога Кірылу Тураўскага, які сведчыў, што менавіта манастыры былі цэнтрамі кніжнасці, а інакі — стваральнікамі літаратурнай мовы. Пра інакаў як носьбітаў асветы свяціцель Кірыла Тураўскі зазначаў: "Не глаголите: жену имам и дети кормлю и дом строю, ли князю служу, ли власть держу, ли ремество; да не наше есть дело почитание книжное, но чернечьское".

Духоўнае выхаванне народа адбывалася праз манастыры. Святыя Айцы грэчаскія, у тым ліку і самыя глыбокія пісьменнікі перакладаліся, чыталіся, перапісваліся ў цішы манастыроў, гэтых своеасаблівых духоўных праваобразаў святых універсітэтаў. Сярэдневяковае хрысціянскае пісьменства, асабліва яго візантыйска-паўднёваславянска-афонская яго галіна, мела характар адкрытай сістэмы, якую пранізвалі скразныя ўплывы суседніх нацыянальных моў і культур. У сваю чаргу пазней і старабеларуская кніжнасць уваходзіла сваімі гранямі ў структуру культур іншых хрысціянскіх этнасаў. Фактычна старабеларуская літаратура ўзнікла пад магутным уплывам візантыйскай і паўднёваславянскай кніжнасці.

Многія медыявісты адзначаюць, што першыя старабеларускія помнікі былі спіскамі з адпаведных паўднёваславянскіх, але неўзабаве ўслед за перакладнымі ўзнікаюць і ўласныя арыгінальныя творы, складваюцца свае духоўна-асветніцкія цэнтры ў Полацку, у Тураве, Пінску, Смаленску, Наваградку, Вільні і іншых гарадах ВКЛ.

Увасабленнем двух бакоў старабеларускага падзвіжніцтва: асветніка-кніжніка і змагара з ворагамі сталіся святыя Аўраамій і Мяркурый Смаленскія. Адзначым, што ў час казанняў Аўраамія Смаленскага, найвялікшага гамілета не толькі Смаленшчыны, але і ўсходнеславянскіх зямель, сцякаліся вернікі з усіх храмаў горада і ваколіц. Ён спрыяў росквіту кнігапісання на Смаленшчыне, узначаліў скрыпторый. У Святым Пісанні ён быў настолькі дасведчаны, што ніхто не асмельваўся "перад ім ад кніг гаварыць". Ад напісаных ім ікон яшчэ ў XIX стагоддзі назіраліся цудадзейныя ацаленні. Гасподзь бараніў дабрапамыснага, за абразы яго доўгі час у Смаленску не было дажджу, толькі па малітвах інака край пазбег спусташальнай засухі. Святы вой Мяркурый Смаленскі родам, на думку даследчыкаў, быў з заходу беларуска-ліцвінскіх ці мараўскіх зямель, ён па цудадзейным закліку Багародзіцы абараняе край ад татарскага паланення. У жыцці ён быў вельмі выхаваным чалавекам. Дабрапамысны Мяркурый здабывае права спавясціць сваю нарачоную аб адыходзеда Госпада. Але дзяўчына смяялася з яго, бо ён нёс пад пахаю ўласную адсечаную галаву, як і святы Дзіянісій Арэапагіт, на шляху да храма.

Сярод носьбітаў другога паўднёваславянскага ўплыву побач з Кіпрыянам Кіеўскім, Грыгорыем Цамблакам, Максімам Грэкам, каралевай Аленай Іванаўнай, быў славуты афонец, старабеларускі пісьменнік Іаан Вішанскі, які для гісторыкаў славянскіх літаратур XIX стагоддзя стаўся такім жа архетыповым сімвалам Беларусі, як Францішак Скарына ці Канстанцін Астрожскі.

**— На жаль, сярод беларусаў распаўсюджана думка пра пасіўнасць нас як этнасу. Але былі ў нашай гісторыі часы велічы і славы, еўрапейскай, нават сусветнай вядомасці. Як магутныя хвалі славянскага Адраджэння абумовілі ўласна беларускі ўплыў?**

— Хвалі пасіянарных уздымаў абумовілі феномен славутага беларускага ўплыву на культуры еўрапейскіх і славянскіх народаў. Магутная плынь беларускага ўплыву (XV—XVII стст.) была выклікана агульным памкненнем этнасу на распаўсюджанне сваёй культуры ўшыр. Надзвычай дынамічная фаза ўзлёту нацыі спарадзіла сонмы айчынных святых, культ этнічнага падзвіжніцтва, самаахвярнага служэння кніжнасці і асвеце.

Згадаем, што пасля шлюбу з сястрой грэчаскіх імператараў князь Уладзімір хрысціць сваіх дзяцей, а жонкам прапаноўвае выбраць сабе мужоў з князёў і баяр. На што Рагнеда Рагвалодаўна дала годны адказ: "Царыцаю я была, царыцаю і застануся... А калі ты спадобіўся святога хрышчэння, то і я магу стаць нявестаю Хрыстоваю і прыняць ангельскі вобраз". І рашучая палачанка прымае манашаскі пострыг з іменем Анастасіі. Ад такой хрысціянскай дзеі маці ацаліўся яе дзесяцігадовы кульгавы (нават амаль нерухомы) сын Яраслаў (пазней ён атрымаў найменне Мудрага), які пры гэтым усклікнуў: "Ты сапраўдная царыца і ўладычыца ўладароў, бо не хочаш з вышыні саступіць уніз". Вось адкуль карані славы і велічы Яраслава Мудрага, прагі да храмабудаўніцтва, асветы люду, спрыяння кніжнікам і перапісчыкам. Магутны дух полацкіх князёў абумовіў шырокія дынастычныя сувязі праз дачок, сыноў, сястру Яраслава і шырокую вядомасць яго ў Еўропе. Сярод носьбітаў першай хвалі беларускага ўплыву не толькі сям'я полацкага князя Георгія Усяславіча і яго жонкі Сафіі, бацькоў Еўфрасінні Полацкай, якія эмігрыравалі ў Візантыю, дабрапамысныя Еўпраксія Пскоўская і Харыціна Літоўская, Сафія Вітаўтаўна, дачка Вітаўта, святы князь Даўмонт-Цімафей Пскоўскі, мужная ліцвінская княгіня Гражына, якая выратавала Наваградчыну ад крыжакоў, Настасся Алелькавіч, княгіня, якая неаднойчы ўзначальвала абарону Слуцка і зрабіла яго амаль непераможным для ворагаў.

Рысы магутнай і ўсеахопнай экспансіі набывае беларускі ўплыў у сваю другую хвалю, часы беларуска-ўкраінскай этнічнай еднасці, праз дзяржаўную і асветніцкую дзейнасць Пятра Магілы, перакладчыкаў на чале са славутымі старабеларускімі пісьменнікамі Епіфаніем Славінецкім і Сімяонам Полацкім. Зазначым, што старабеларускі ўплыў на расійскую культуру быў настолькі моцным, лёг у падмурак сучаснай моўнай і рэлігійна-культурнай традыцыі, што некаторыя даследчыкі называюць яго трэцім паўднёваславянскім ці беларускім уплывам. Спадчына ж Сімяона Полацкага аказала значны ўплыў на культуру і кніжнасць Грузіі, Італіі, Германіі, Швецыі, дзе надзвычай плённа даследуецца і вывучаецца ў наш час. Вяршыняй беларускага ўплыву стала дзейнасць і творчасць Афанасія Філіповіча і славутага навукова-асветніцкага гуртка слыннага духоўнага пісьменніка Лазара Барановіча, з яго буйнейшымі прадстаўнікамі Іаанікіем Галятоўскім, Інакенціем Гізелем, Антоніем Радзівілаўскім, Дзімітрыем Растоўскім, Стэфанам Яворскім, Феадосіем Чарнігаўскім, Георгіем Каніскім. Нават А. Пушкін прызнаваўся, што вучыўся ў старабеларускіх кніжнікаў, пераймаў іх вопыт упарадкавання літаратурнай мовы.

**— Сярэднявечча пакінула нам шматлікія згадкі пра цудадзейную дапамогу айчынных святыняў. Павяртанне народу да духоўнасці сведчыць пра вялікае значэнне іконы і ў сучасным жыцці. Ікона, падараваная чалавецтву з мэтай набліжэння да ідэалу падзвіжніцтва і міласэрнасці?..**

— Святы Васілій Вялікі сцвярджаў, "што слова апавядае для слыху тое, што маўклівы жывапіс паказвае праз выявы", а папа святы Грыгорый Дваяслоў называў святыні "Бібліяй для непісьменных". Ікона разумелася як сакральны тэкст, які неадукаваны чалавек можа спасцігнуць душою. Сузіранне іконы, як сведчаць мастацтвазнаўцы, перш за ўсё малітоўны акт, у якім спасціжэнне сэнсу прыгажосці пераходзіць у спасціжэнне прыгажосці сэнсу. Ікона — вакно ў духоўны свет, у яе свая мова, праз якую перадаецца духоўная інфармацыя непасрэдна ў патаемныя глыбіні чалавечага сэрца, з мэтай зрабіць яго свядомым саўдзельнікам працэсу "абажэння". Менавіта праз сузіранне іконы вернік мае магчымасць аднавіць у сваёй душы цэласнасць хрысціянскай прыгажосці ў зямным вонкавым занатаванні.

Уся гісторыя нашай краіны прайшла пад знакам іконы, святыні, падзвіжнікі зямлі Беларускай сталіся падараваным ад Госпада абярогам, аховай, абаронай нашай Айчыны, кожнага з нас.

Само Святое Пісанне можна разглядаць як ікону, напісаную словамі, а ікону — як свяшчэнную гісторыю, адлюстраваную ў фарбах і лініях. Святыя іконы ўказваюць чалавечаму сэрцу шлях да Вечнага Валадарства Божага, нездарма ў часы іканаборчыя найбольш самаахвярнымі абаронцамі святынь былі манахі-пустэльнікі, аскеты, якія бачылі ў іконе вобраз жывой асобы святога, што кліча кожную істоту да еднасці з Госпадам. Сапраўднай загадкай усіх часоў быў такі феномен цудадзейных ікон, што і спіскі іх набывалі гэткую ж уласцівасць. Багасловы і медыявісты адзначаюць, што "сам святы абірае ікону месцам сваёй духоўнай прысутнасці, знаходзіцца з ёй, праз яе здзяйсняе цудадзеянні". Чалавек у часе малітвы сузірае святога праз асаблівую канцэнтрацыю ўвагі, праз дыялог асобы з асобай, што пачынаецца са слова, а заканчваецца паяднаннем у духоўнай любові без аналізу, ацэнкі, параўнання з ідэалам, эстэтызму і захаплення зямной прыгажосцю, калі кожны зрух душы — адзнака духоўнага сваяцтва, таямнічая гаворка духа з духам у Вечнасці.

Нашыя святыя продкі, старабеларускія падзвіжнікі асветы яшчэ пры іх зямным жыцці імкнуліся дапамагчы кожнаму, хто прагнуў іх падтрымкі. І зараз у саборах святых яны чакаюць нашых малітоўных зваротаў, бароняць Айчыну, усяляк імкнуцца нам спрыяць.



ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЦЁТКІ

# Зваротка беларускае песні

***Цётка...***

***Як песні зваротка...***

***Як песні радочак...***

***Гэтыя радкі з верша Дануты Бічэль-Загнетавай дакладна вытлумачваюць сутнасць асобы Цёткі — першай паэткі прамінулага стагоддзя. Алаіза Пашкевіч сапраўды была ў многіх справах звароткам, зачынам той яркай, магутнай песні ў беларускай гісторыі, якую мы сёння з гонарам называем Адраджэннем. Усюды першай, актыўнай. Першая беларуская газета ў тым часе з гэткай гучнай назвай — "Свабода" — гэта і яе справа, як і заснаванне першай палітычнай партыі БРГ. Першыя вершы, што друкаваліся ў "Калядней пісанцы" і "Велікоднай пісанцы" (1904 г) яшчэ раней, чым засвяцілісся зоркі Купалы і Коласа. "Першае чытанне для дзетак беларусаў", першы беларускі лемантар, першы беларускі малітоўнічак (складзены, падрыхтаваны да друку, але свету так і не пабачыў) і, канешне ж, першы дзіцячы часопіс "Лучынка", чыёй старожкай яна была.***

## Чаму ўсё ж — Цётка?..

Пра самы вядомы псеўданім Алаізы Пашкевіч (нагадаем, што былі яшчэ — Мацей Крапіўка, Гаўрыла з Полацка, Тымчасовы, Банадысь Асака і інш.) напісана нямала.

Дазволю і сваё тлумачэнне.

Беларуская нацыя ў тым, ды, на жаль, і сённяшнім, часе — сапраўдная сіроцінка, няшчаснае дзіцятка, што не мае матулі. Таму і гібее ў сваёй хаце па цёмных кутох. А на лепшых месцах — мачыха са сваім вывадкам. Хто найрадней сіраціне ў такіх варунках? Той, хто і спагадлівае сэрца мае і хто кроўны, родны. Цётка. Родная сястра бацькі ці маткі. Дык вось, Алаіза Пашкевіч і ўзяла на сябе гэтую складаную, адказную місію — быць роднай Цёткай беларускай нацыі-сіроцінкі. Годна выконвала яе. І пра гора-нядолю расказала (апавяданне "Міхаська", верш "Сіроцінка") і кніжку да сонца-ведаў у рукі дала.

## Хадзіла праз Хадзілоні

Хадзілоні — вёска з гэткай выразнай назвай — на шляху са Старога Двара да Астрына. І яна, пэўна ж, не раз хадзіла па тым старадаўнім шляху. Адсюль выпраўлялася ў Вільню, Пецярбург, сюды ў мроях птушкай ляцела з далёкае чужыны. Чамусьці ўяўленне малюе адно смутную карціну: адзінокая постаць вандроўніцы на гразкай, глейкай дарозе. І шлях той ахутаны сырым туманам. Ці лье пранізлівы дождж, ад якога ніяк не ратуе парасон...

А мо ўсё было інакш? Мо і сонца свяціла, і не адна яна выбіралася ў далёкі шлях, а нейкая родная душа заўсёды праводзіла, каб дарога не была нуднай. І, пэўна ж, бацька таксама ладаваў брычку, каб выправіць сваю дачку-паненку ў далёкі горад, споўніць яе волю, яе прагу ведаў, хоць і не па душы было тое пану Сцяпану, які хацеў для дачушкі лягчэйшае, спакойнае жаночае долі.

## Сыночак

Як сведчаць тутэйшыя жыхары (па згадках сваіх продкаў), у Алаізы Пашкевіч было дзіцятка. Сыночак. Ні ягонага імя, ні нейкіх іншых звестак у памяці мясцовага люду не захавалася. Памёр ён у раннім веку, пахаваны ў тым жа месцы, дзе пазней была пахавана і маці.

Гэта цалкам верагодна, бо не маглі ж людзі такое выдумаць: "Прыехала паненка з гораду і прывезла байстручка". Не груба і зневажальна — "байструк", а з пяшчотай, бо любілі і шанавалі гэтую добрую паненку. Хоць сэнс слова ўсё роўна з-за гэтай ласкавай формы прабіваўся.

## Стала песняй у народзе?..

Нататкі пяцігадовай даўнасці закончыла яе, Цётчыным, — "Стану песняй у народзе". І маёй верай: так стала. Велічнай песняй... І якраз тады, калі той артыкул ужо быў падрыхтаваны да друку, пачула ад калежанкі літаральна наступнае. Збіраліся на святкаванне ў Шчучын. І ішла яна па Гародні са сваёй дачкою і кажа, што едзем на гадавіну да Цёткі. Дачка ўдакладніла, колькі спаўняецца? — 120. Абганяе іх малады чалавек і, паказваючы сваё здзіўленне, з захапленнем усклікае: "Ну і жыве ж Ваша цётка!" Юнак, які нядаўна закончыў школу на Беларусі, не мае паняцця, хто яна — Цётка. Нешта сходнае згадвае Лідзія Арабей у сваіх мініяцюрах. Толькі ў якасці гэткага недавука ў яе выступае адзін з райкомаўскіх сакратароў з Ліды ("Полымя", 1997, № 11).

Што ж гэта за народ такі, што дазваляе сабе забыць найлепшыя свае песні?.. І не дзіва. У Астрыне, спрадвечным беларускім мястэчку, на Цётчынай радзіме, ёсць школа, што носіць яе імя. Ёсць прыгожы помнік, а іх так мала на Беларусі — вартых помнікаў беларускіх паэтаў. Ёсць добры музей, дзе юныя краязнаўцы рупяцца разам з настаўніцай беларускай мовы пра захаванне нацыянальных скарбаў. Няма толькі ні аднаго дзіцяткі ў двух першых класах, якога б навучалі роднай, гэтак шанаванай Цёткай беларускай мове. У гэтую школу прыходзяць не толькі дзеткі з "рускага" Астрына, але і з вакольных вёсачак, дзе яшчэ жыве беларуская мова. Два першыя класы — расейскамоўныя.

*Заглянула сонца і ў наша ваконца:*
*Няма ні дзіцяткі...*

Якраз як у тым жа вершы Дануты Бічэль-Загнетавай. Але ж там — пра пачатак XX стагоддзя. А мы ўжо ідзём у новае — XXI.

Якую ж песню заспяюць у новым часе юныя беларусы?..

**А. ПЕТРУШКЕВІЧ**

ПАМЯЦЬ

# Незабыўны Васіль

***30 чэрвеня споўнілася б 60 гадоў таленавітаму беларускаму паэту Васілю Сідарэнку. З юнацтва да апошніх дзён ён жыў на Украіне, там пісаў свае напоўненыя тугой па роднай Беларусі вершы, там дачасна, у 54 гады, пайшоў з жыцця.***

Гэтага чарнявага даўгатварага хлопца ўпершыню я пабачыў на занятках літаратурнай студыі пры выдавецтве "Молодь" (кіраваў я тады паэтычнай секцыяй студыі).

Жыццёвы шлях яго пачаўся ў час вайны (нарадзіўся Васіль 30 чэрвеня 1941 года). Сваім лёсам ён стаў блізкім украінскім пабрацімам, "дзецям вайны".

З першых сустрэч з ім на студыі (а Васіль у гэты час быў студэнтам Кіеўскага электрамеханічнага тэхнікума), па тым, як прамаўляў ён асобныя словы, мы адчулі ў ім беларуса. Выявілася, што родам В. Сідарэнка з Магілёўшчыны (в. Вайнілы Чавускага раёна), бацька яго загінуў на фронце. Расказаў Васіль пра папялішчы згарэлых хат, пра тое, як пёк ён з хлапчукамі на кастрах аладкі з перамерзлай гнілой бульбы, як вучыў вершы з падручніка старэйшай сястры, яшчэ дашкольнікам навучыўшыся чытаць і маляваць.

Хоць на занятках студыі Васіль чытаў свае вершы на рускай мове, мы здагадаліся, што ёсць у яго і беларускія. Калі ён стаў іх чытаць, адчулі, што менавіта ў іх хараша раскрываецца вобразнае светаадчуванне маладога паэта. Спадабаўся верш "Эцюд з дзяцінства" пра тое, як месяц прабраўся праз шыбу ў хату, паступова дасягнуў да вядра на лаве. Верш заканчваўся словамі:

*Можа, бацька прыходзіў,*
*каб напіцца вады.*

Шчырага, непасрэднага, мы палюбілі Васіля як брата. Вось ён расказвае, як смеліўся малым на свяце ў саўгасным клубе прачытаць "Бородино" Лермантава і верш Янкі Купалы "Мужык". І пра тое, якім родным для яго быў "Кабзар" Шаўчэнкі, як яго любілі ў ягонай сям'і чытаць вечарамі.

Неўзабаве Васіль Сідарэнка паспяхова выступае на сустрэчах літстудыйцаў з заводскай і студэнцкай моладдзю Кіева.

У маі 1963 года разам з украінскімі хлопцамі і дзяўчатамі ездзіў ён у Маскву на Усесаюзную нараду маладых пісьменнікаў. Украінскую дэлегацыю ўзначальваў Паўло Тычына, які быў знаёмы з творчасцю ўдзельнікаў гэтай нарады. Ды ў Маскве Васіля перавялі ў беларускую групу. Семінары яе адбываліся на кватэры Міхаіла Ісакоўскага, бо стары паэт прыхварэў. На семінары Васіль, як мы потым даведаліся, добра "прагучаў" і атрымаў агульнае прызнанне.

У Кіеве Васіль Сідарэнка апынуўся ў віры літаратурнага жыцця. Доўгі час ён працаваў у аддзеле інфармацыі газеты "Літературна Україна", пасля ўзначаліў гэты аддзел. У Васіля Васільевіча наладзіліся сяброўскія адносіны з многімі пісьменнікамі і журналістамі. З ім, начытаным, эрудзіраваным, цікава і лёгка было размаўляць пра навіны ўкраінскай і беларускай літаратур. І не толькі. У яго можна было распытаць пра тонкасці якога-небудзь беларускага твора, ці пра рэдкае беларускае слоўка для перакладу верша.

Васіль Сідарэнка... Яго адрознівала нейкая ціхая, інтымная манера размовы, падчас якое ў яго мову ўпляталіся сімпатычныя беларусізмы, і адчувалася непаўторная братняя цеплыня. Пад уплывам гэтага мы сталі любоўна называць яго Васіль... (Па-ўкраінску вымаўляецца звычайна цвёрда: Васыль, *перакл.*).

Быў Васіль Васільевіч незвычайна ўважлівы. Заходзім неяк у рэдакцыю "Літературнай Украіны", а ён адчыняе шуфляду: "Вось ваш верш надрукавалі". І дае нейкую раёнку з далёкай вобласці (як даведаўся, дзе дастаў экземпляр?)

На Украіне выйшлі дзве кніжкі Васіля Сідарэнкі: зборнік вершаў "Яса" ў перакладзе на ўкраінскую і "Адлегласць" — на яго роднай беларускай мове з маёй прадмовай і пасляслоўем Дзмітра Чараднічэнкі. Першае — у выдавецтве "Молодь", другая — у спецыялізаванай рэдакцыі літаратуры на мовах нацыянальных меншасцяў. У гэтай, другой кніжцы я імкнуўся больш ці менш поўна ахарактарызаваць творчы набытак нашага беларускага сябра. Хачу працытаваць радкі з верша, прысвечанага Максіму Рыльскаму, у якім В. Сідарэнка звяртаецца да паэтавай праўды, гатовы ісці на яе покліч:

*Ўпаду маланкаю ў чаляднік ночы*
*І засвячу твой твар перад людзьмі.*
*Ты праўдаю назвалася аднойчы —*
*Прымі мой сум і голас мой прымі,*

*Каб я з тае не збіўся каляіны,*
*Якой ішлі бацькі мае да бою,*
*Каб мог згарэць у полымі каліны*
*І зноў ажыць, пакліканы табою.*

А вось — трывога маладога беларуса, прадчуванне чарнобыльскай трагедыі. Амаль за паўтара дзесяцігоддзя да катастрофы паэт так пісаў пра экалогію асяроддзя:

*Век мой — мая хвілінка,*
*Ружа мая і стронцый,*
*Палаючая павуцінка*
*На ўзыходзячым сонцы.*

Прыгадваюцца выступленні В. Сідарэнкі на літаратурных вечарынах і сходах. І яго творчы вечар "У коле сяброў" у Саюзе пісьменнікаў Украіны. Тут ён быў настолькі сціплы, што калі яго хвалілі, неяк разгублена пасміхаўся і па-дзіцячаму саромеўся...

Яго вершы хвалюючыя, сучасныя. У іх ёсць незвычайныя знаходкі. Часта ўпляюцца беларускія матывы. Характэрны з гэтага пункту гледжання верш "Запалкі".

*...Мяне не спакушаюць этыкеткі.*
*Ўсяроўна мне — "Казбек" ці "Аганёк",*
*Бяру заўжды любыя цыгарэты,*
*Запалак беларускі карабок.*

*Гавораць мне, што я куру багата,*
*Я ж, можа, і куру з прычыны той:*
*Абы рукою дрэва мне пакратаць,*
*Што ў Беларусі вырасла маёй.*

Беларусь і Украіна — скразная тэма паэзіі В. Сідарэнкі. Асобныя радкі гучаць шчымліва запаветна:

*Няўжо безыменны я сын краіны —*
*Сын Беларусі,сын Украіны?*
*Як не стане мяне, хай з абох краін —*
*асвяцяць мяне*
*І складуць мае рукі на дамавіне.*

Згадваецца Васіль найчасцей засяроджаны, прыжураны. А прычынаю быў смутак па роднай Беларусі, журба па яе лёсу. Аднак, пад настрой мог дасціпна пажартаваць. Асабліва ўдала імітаваў галасы знаёмых, а здаралася — і крамлёўскіх правадыроў.

Нельга не сказаць хоць некалькі слоў пра В. Сідарэнку як перакладчыка твораў на ўкраінскую мову, укладальніка многіх кніг. Ён упершыню пераклаў п'есу Янкі Купалы "Тутэйшыя", паэму Максіма Танка "Мікалай Дворнікаў" і іншыя творы.

Яго аднолькава любілі і на Беларусі, і на Украіне. Звестка пра яго заўчасную смерць (памёр 17 сакавіка 1995 года) апякла нашы сэрцы. Пра гэта за ўсіх нас сказаў у сваім шчымліва-тужлівым вершы Уладзімір Забаштанскі:

*Ах, Васілік, Васілька, Васілейка,*
*ды куды ж ты падаўся, куды?*
*Не спыніць, не суняць, не асіліці*
*тваёй гэткай няўмольнай бяды.*

*Мы па мовах браты, не сумежнікі,*
*з аднаго мы з табою камля.*
*Не забыць нам, як ты перасмешнічаў*
*дзеячоў махаротых з Крамля.*

*Клопат, сум па сыночку, па зернетку*
*нам сягоння так чуецца ўсім,*
*з заазер'я да Кіева звернуты:*
*"Дзе ж ты зноў затрымаўся, Васіль?.."*

**Дзмітро БІЛАУС**

**Пераклаў з украінскай мовы Валеры СТРАЛКО**

# Пісьменніцкі "дэсант" Міхася Лынькова

## З УСПАМІНАЎ БЫЛОГА ФРАНТАВІКА

*У космас шыбкі расчынены,*
*Зямля ў Сусвеце ловіць навіну.*
*Жыццё ідзе. А я ўсё пра Айчынную,*
*Вялікую Айчынную вайну...*

**Уладзімір ПАЎЛАЎ**

Легендарная баявая аперацыя "Баграціён"... Гарачае лета сорак чацвёртага. І па надвор'і, сонечна-спякотным, і па тых напружаных вызваленчых баях, што шырокім фронтам разгарнуліся на нашай роднай беларускай зямлі.

Напачатку добрае слова хочацца сказаць пра народных нашых пісьменнікаў Міхася Лынькова, Максіма Танка і Аркадзя Куляшова: на заключным этапе гэтай, адной з самых буйных стратэгічных аперацый Вялікай Айчыннай, яны сумесна з групай маскоўскіх калег увесь час правялі на Першым Беларускім фронце, а менавіта на баявых пазіцыях нашай Трэцяй арміі генерала А. В. Гарбатава, у якой ваяваў і аўтар гэтых нататак.

Да самых дробных, як кажуць, дэталяў запомніліся тыя нялёгкія два тыдні знаходжання дарагіх нам гасцей, якія прыехалі на пярэдні край наступлення "не любопытства ради", а для канкрэтнай мэты — напісання дакументальнай кнігі "аб баях-пажарышчах".

Горача прыняў іх камандарм, начальнік армейскага штаба генерал Макар Івашачкін, дарэчы, з даваеннага часу член Саюза пісьменнікаў. "Пісьменніцкі" дэсант", як тут жа "ахрысцілі" мы яго, пачаў энергічна "высаджвацца" непасрэдна ў часцях і падраздзяленнях, на перадавой. У "зборы матэрыялаў" для "Беларускага паходу" (так умоўна была названа будучая кніга) актыўны ўдзел прынялі ўсе літаратары. А сустрэчы на баявых пазіцыях у час кароткіх, канешне ж, нячастых, перапынкаў з наступаўшымі воінамі ў дывізіях, палках, батальёнах і ротах былі, безумоўна, для мінскіх і маскоўскіх пісьменнікаў своеасаблівым "кладом" — гутаркі з тымі, хто асабіста ўдзельнічаў у баях па вызваленні нашай роднай зямлі беларускай давалі свой плён. Усё занатоўвалася. Так паступова ствралася кніга.

Найбольшую частку "Беларускага паходу", як высветлілася потым, пры канчатковай вёрстцы кнігі, "акупіраваў" Міхась Лынькоў, над якім, памятаю, хтосьці з сяброў па франтавой камандзіроўцы трохі пасмейваўся:

— Вось што значыць быць на чале нашага літаратурнага "дэсанту!"

Напісаў Лынькоў аж паўтара дзесятка нарысаў. Пра радавых-герояў, малодшых і старшых камандзіраў...

Максім Танк і Аркадзь Куляшоў прывезлі з вайны свае новыя вершы, а масквіч Павел Антакольскі ажно паэму прысвяціў камандарму Гарбатаву.

...Да жалю вялікага, няма ўжо ўсіх гэтых выдатных аўтараў. Але памяць аб іх, добрая, чалавечая, беспамылкова можна сказаць усенародная, жыве і будзе далей жыць у сэрцах чытачоў. Сённяшніх і заўтрашніх...

**Рыгор ТАРАСЕВІЧ,**
**маёр у адстаўцы, ветэран вайны і працы, інвалід II групы.**

**Калектыў выдавецтва "Юнацтва" выказвае глыбокае спачуваннеПЕРМЯКОВАЙ М. Ч. у сувязі з вялікім горам — смерцю маці.**

# Абыпраштоські...

Як глыбакадумна і мнагазначна мы маўчым! Строгія адухоўленыя твары, разумныя вочы, напоўненыя ўсведамленнем агульнай ісціны. Слоў не трэба, калі такая колькасць думак. Пры чым тут моўны апарат, калі зносіны ўдасканалены да мяжы і з поспехам пераўтвораны ў маўклівую перадачу адчутага на адлегласці? Замест рота — трэцяе вока, трэцяе вуха. Незаўважная, а таму не вельмі балючая дэградацыя. Эра міласэрнасці ў адносінах да ўласнае годнасці.

Як цудоўна мы маўчалі ўчора! Усе пра адно. Згуртавана і дружна. Прасветлена і ўзнёсла. Як асэнсавана і высакародна маўчым сёння... Што гэта! Хтосьці закрычаў раптам, занечыў і сціх? Не хвалюйцеся — ён проста памёр. Някепскі быў чалавек. Давайце ўганаруем яго памяць яшчэ больш працяглым маўчаннем.

❑

Сярэдзіна рабочага дня. Чакаю аўтобуса. Ад няма чаго рабіць разглядаю надпіс над прахадной невялічкага заводзіка: "Успешного труда, товарищ!" Побач, хістаючыся і заплюшчыўшы вочы ад асалоды адзін з "товарищей" у шчаслівым самазабыцці мочыцца на вароты роднага да болю прадпрыемства. Віват, таварыш! У думках я з табой. Не ў сэнсе фізіялогіі, не ў сэнсе неадкладнага і вельмі рашучага задавальнення малой патрэбы, а па прычыне здаровага і развязлівага падыходу да глабальнага асэнсавання супярэчлівай рэчаіснасці... Вельмі неадэкватная жыццёвая пазіцыя. Цікава, а як таварыш ставіцца да парушэнняў заканадаўства ў галіне цэнаўтварэння, да стабілізацыі грашовай адзінкі і ўпартага росту рэальных даходаў? Ці супадаюць нашы з ім падыходы да ацэнкі прыватнай уласнасці і будучага ўраджаю ўсіх разам узятых беларускіх калгасаў?.. "Ды пайшлі вы ўсе на...!" — радасна раве разняволены "успешным трудом" і расшпілены на ўсе гузікі таварыш. Цалкам згодны! Поўная еднасць душ. Інтэлігенцыя і пралетарыят — заўжды разам... Падыходзіць аўтобус. Хуценька заскокваю ў цёплыя і дружалюбныя абдымкі жыццярадасных пасажыраў.

❑

Ажаніўся аркуш на асадцы. Справа жыццёвая... Першая бяссонная ноч. Першы натхнёна творчы акт. У выніку — немаўлятка. Кволае і нерашучае — і вочкі-літаркі не туды глядзяць, і слоўкі-ручкі не на тое паказваюць. Няўдалае, карацей... Разлазваўся спісаны аркуш. Пырскнула чарнільнай слязой абураная асадка. Рука (твая? мая? ці таго, за суседнім сталом?) скамячыла **яго** і шпурнула ў сметнік, запхнула **яе** ў кішэню і пацягнулася за цыгарэтай... Колькі іх, скасаваных шлюбаў?

❑

Школьны клас — маленькая дзяржава. Вучні — той жа электарат. Два-тры ведаюць, дзеля чаго ўсё ўсчата, частка здагадваецца, большая палова — нават не ўсведамляе. Абавязак адзіны — вучыцца. Праву не ведае ніхто. Кожны рух — пад педагагічным кантролем. Усё — па школьным званку. Насамрэч, як у звычайным жыцці. Рабі з гэтых трох дзесяткаў, што пажадаеш. Валюнтарысцкую рэспубліку ці таталітарную манархію... Відаць, таму ў настаўнікі ідуць альбо нерэалізаваныя дыктатары, альбо непапраўныя ва ўласнай наіўнасці рамантыкі.

❑

Праз дарогу ад мікрараёна ў хмызняках закінутага саду жыве салавей. Ужо трэці год. З аднаго боку горад — безаблічны, задыханы, бетонна-шматпавярховы; з другога — вялікае поле, стары сад, некранутыя мурагі з дзьмухаўцамі і... салавей, да чорнай зайздрасці шалапутны і бесклапотны. Ён пачынае ўвечары. Празрыста і пранізліва. І пляваць ён хацеў на бразгат тралейбусаў і фанабэрысты брэх гарадскіх сабак-дармаедаў. Ён спявае насуперак усяму, бо толькі для гэтага й нарадзіўся. І я добра адчуваю, як ён вар'яцее пры гэтым ад свайго маленькага салаўінага шчасця — спяваць проста так, для сябе, не па загадзе, не дбаючы пра слухачоў і ганарары. Як падпіты вясковы дзядзька-лявун з гармонікам пасля вяселля ў безнадзейных начных пошуках уласнае хаты. Усе спяць, а ён ніяк не супакойваецца. І калі спеў захліпаецца — пачынаецца новы ранак.

❑

Мне не вельмі спакойна ў краіне, дзе шмат пузатых міліцыянтаў і вайскоўцаў.

❑

Ён паспрабаваў засмяяцца — не атрымалася. Не далася і ўсмешка. Нейкі ледзь не звярыны выскал сяк-так праявіўся, а добрая жывая ўсмешка — ну ніяк! Доўга завіхаўся ля люстэрка, расцягваючы скуру твару пальцамі, бездапаможна вышчэрваючы рот. І не стараўся б так, калі б не ўчарашні нечаканы загад: навучыцца пасміхацца ў любым выпадку — нават калі хлусіш, нават калі сам не верыш у тое, што гаворыш. Мы ж, маўляў, таксама не галота, мы ж, маўляў, таксама еўрапейцы... Ён, няшчасны, упершыню не выканаў загад, сеў у персанальнае аўто, як і заўжды, пахмурным і злосным. Здранцвелыя мышцы твару нічога не выдалі, апрача падазронасці і недаверу. Так і паехаў на працу, разбіўшы люстэрка, — звычайны дамарослы індывід: чалавек са скрадзенай кімсьці і калісьці ўсмешкай. Няхай сабе і пасярод Еўропы.

❑

Жонкі і дзеці казахаў, армянаў, цыганоў... На мінскіх прыпынках, у пераходах, метро і тралейбусах. "Сами мы не местные... Подайте Христа ради..." Бясконцыя прыхільнікі аптымістычнага закліку Маркса і Энгельса: жабракі ўсіх краін, яднайцеся. На беларускай зямлі з дапамогай рускай мовы. Я ім зайздрошчу: ім ёсць куды вяртацца. Нам — няма. Мы тут усур'ёз і надоўга. Жабракі ў жабрацкім атачэнні без перспектыў на ўзаемапаразуменне з уласнай радзімай і ў заўсёдных пакутлівых пошуках міласціны на ўласнай зямлі. "Самі мы тутэйшыя, але немаёмныя ды нямоглыя... Хто можа, хоча і не супраць — падайце дзеля Бога..." Глядзіш, які самазадаволены ўзбек на пляцы Перамогі і кіне што-небудзь у нашу працягнутую шапчыну. Жабракі-інтэрнацыяналісты, яднайцеся!

**Яўген РАГІН**



# На сустрэчы з чытачамі...

## ВЯСЁЛЫЯ ЗГАДКІ

Паехалі ў глыбінку на сустрэчу з чытачамі Аляксей Зарыцкі, Ян Скрыган і зусім яшчэ ў той час малады Алесь Ставер.

Выступалі ў калгасным клубе. Пачынаў Ян Скрыган. Старшыня калгаса, які сядзеў у прэзідыуме разам з пісьменнікамі, часта ўсхопліваўся і крычаў:

— Цішэй, таварышы... Ціха, прашу вас...

Але ў задніх радах падвыпіўшыя механізатары (якраз у гэты дзень была палучка) шумелі, гаманілі. Нарэшце, старшыня не стрымаўся і злосна выгукнуў:

— Цішэй, таварышы! Людзі вы ці свінні... Паважайце гасцей. Іван, заткніся...

Пачуўшы слова Іван, з пярэдняга раду ўзнялася маладзіца ў квяцістай хустцы па плячах і ўсхвалявана пачала ўзірацца туды, дзе павінен быў сядзець нейкі Іван.

Між тым, Ян Скрыган, як чалавек далікатны і надта трапяткі, захваляваўся, стаў азірацца на старшыню, але працягваў гаварыць:

— А яшчэ я напісаў аповесць "Наталля". Многае ў аповесці ўзята з жыцця, сапраўды, была такая прыгажуня Наталля, але крышку я і дамысліў, так сказаць, прыхлусіў.

У гэты час ззаду залы зноў пачуўся п'яны голас таго Івана:

— О... Я думаў, выступае пісьменнік, а гэта ж хлус...

Старшыня, расчырванелы, выбег з-за стала:

— Іван, выйдзі вон... Выйдзі з клуба!

Іван падняўся і паслухмяна стаў выходзіць. Ля дзвярэй прыпыніўся, зарагатаў:

— Міхайлавіч, ну, не крыўдуйце, але ж ён сам кажа, што схлусіў, значыць, хлус...

Жанчына ў квяцістай хустцы, што сядзела на пярэдняй лаўцы, усхвалявана загаварыла:

—От дажыўся, сараматнік, з клуба выгналі. Ай-я-яй... Вунь жа дзеці бачаць...

Скрыган збянтэжыўся, хутка сышоў, амаль збег, з трыбуны, сеў за стол. Слова ўзяў Зарыцкі.

—Таварышы, спакойна, — прагаварыў з робленай усмешкай. — Зараз я пачытаю вам што-небудзь вясёлае, смешнае...

І, каб развесяліць усхваляваную публіку, пачаў чытаць жартоўныя балады Адама Міцкевіча ў сваім перакладзе. Спачатку — аб упартай жонцы, якая вечна не згаджалася са сваім мужыком, усё спрачалася. Аднойчы спрэчка ўзнікла з-за дробязі: мужык гаварыў — голена, а жонка — стрыжана. Раззлаваны муж у парыве гневу кінуў жонку ў рэчку. Тая стала тапіцца, але з вады яшчэ высунула руку і пачала стрыгчы двума пальцамі ў паветры: маўляў, усё ж стрыжанае.

Потым прачытаў другі жарт: жонка са злосці кінулася ў рэчку і ўтапілася. Муж шукае яе. Але ідзе па беразе, супраць цячэння.

—Чалавеча, не ў той бок ідзеш... — сказалі яму.

—О... Яна такая ўпартая, што і пасля смерці будзе плысці супроць цячэння.

У гэты час маладзіца ў квяцістай хустцы ўсхапілася з лаўкі:

—О... бачыце, жанкі, якія пісьменнікі к нам прыехалі. Адзін — хлус, а гэты з нас, жанчын, здзекуецца, насміхаецца... Бачыце, кажа, мы ўпартыя, злыя, дурныя... От злыбеда.

Абражаны Зарыцкі крутнуўся і таксама пакінуў трыбуну.

Становішча пачаў ратаваць Ставер.

—Ведаеце, таварышы, я калісьці ў дзяцінстве быў вывезены ў Германію, — пачаў Алесь. — Немцы ў Бягомльскім лесе праводзілі аблаву на партызан. Я адбіўся ад бацькоў і трапіў у лапы фашыстаў...

Людзі ў зале прыціхлі, засяродзіліся. Тады Алесь пачаў расказваць пра тое гора, якое перанёс у нямецкім палоне. А калі ўсталявалася цішыня, стаў чытаць вершы. Чытаў узнёсла, з імпэтам. О! Алесь быў майстрам выступаць! У заключэнне нават прачытаў народны жарт пра "жаночага чорта", якога мужчыны "вякамі ганяюць, ганяюць і выгнаць не могуць ніяк".

Выступленне закончылася пад дружныя воплескі. Асабліва горача апладзіравала жанчына ў квяцістай хустцы. Пасля выступленняў трэба было адзначаць пуцёўкі.

—Раманаўна, — звярнуўся старшыня да жанчыны ў квяцістай хустцы, — пастаўце, калі ласка, пячаткі на пуцёўках, на маіх подпісах.

Аказваецца, гэта жанчына была ў калгасе галоўным бухгалтарам. Апрача таго, яшчэ і жонкай таго Івана, якога старшыня выпер з клуба. І як толькі падалі ёй пуцёўкі, Раманаўна, абражаная паводзінамі мужа, раптам успыхнула:

—Якія пуцёўкі!.. Каму? Гэтаму хлусу — во!.. А гэтаму грубіяну, што нас абражаў, — во! — І яна сунула ў паветра адну за адной дзве дулі. — А гэтаму маладзенькаму, адзначу, калі ласка, давайце. Такі цудоўны паэт. Божа мой, ахвяра фашызму... Ах, злыбеда на маю галаву... Ну, і пісьменнікі ж да нас прыехалі...

...Даўно тое было. Няма ўжо з намі цудоўных пісьменнікаў Яна Скрыгана, Аляксея Зарыцкага, няма майго добрага сябра Алеся Ставера, цудоўнага чалавека і паэта, з якім мы доўгі час разам працавалі, якога жыццё кідала ў розныя экстрэмальныя абставіны, але ён не звяртаў увагі на ўсялякія нягоды, заўсёды быў вясёлы і ішоў наперад з вясёлай усмешкай.

...Спыніўся толькі на пачатку Ракаўскай шашы — навечна...

Эх, Алеська, як мне цябе не стае! Як мне хацелася б з табой пагутарыць, пажартаваць, пасмяяцца! Ды ніколі не зможам!.. А жыццё ж крочыць наперад. І па-ранейшаму... жураўлі на Палессе ляцяць...

**Віктар ДАЙЛІДА**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19



**ТЭЛЕФОНЫ:**

прыёмная рэдакцыі — 284-8461

намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985

АДДЗЕЛЫ:

публіцыстыкі — 284-8204

пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985

літаратурнага жыцця — 284-8462

крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985

паэзіі і прозы — 284-8204

музыкі — 284-8153

тэатра, кіно — 284-8153

выяўленчага мастацтва — 284-8462

фотакарэспандэнт — 284-8462

бухгалтэрыя — 284-8462

Тэл./факс — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2506

Нумар падпісаны ў друк 19.7.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4071

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12